PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 14 (2186) Год XLIII Беласток 5 красавіка 1998 г. Цана 1 зл.



# Ушанаванне ідэалаў БНР

**У гэтым годзе прыпадае 80-я гадавіна абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Нагода гэта, каб распыленым па ўсім свеце беларусам яднацца ў думках і пачуццях — 25 сакавіка ў беларускіх асяродках па-за межамі Рэспублікі Беларусь адзначаецца як Свята Незалежнасці. У самой жа рэспубліцы, як ні дзіўна, ідэал БНР, які стаў непасрэднай прычынай утварэння беларускай савецкай формы дзяржаўнасці, зведзены цяперашнім кіраўніцтвам у нішто.**

Арганізатарамі святкаванняў „вельмі круглай" гадавіны абвяшчэння БНР у Беластоку сталі Беларускі саюз у Польшчы і Беларускае аб'яднанне студэнтаў. Якім чынам беларусы, як у нашым выпадку — грамадзяне Польшчы, могуць аказаць падтрымку беларусам у Рэспубліцы Беларусь? Перад усім спрыяючы распаўсюджванню ведаў пра Беларусь у сваёй краіне. Гэтак рабілася і робіцца ва ўсім вольным свеце. Шкада толькі, што ў працэсе гэтым не прагучаў сёлета голас усіх беларусаў, якія або ўвасабляюць грамадскі рух на Беласточчыне, або з'яўляюцца проста яго сімваламі. Не хапіла асоб Пятра Крука, Яна Сычэўскага, Яна Чыквіна, Сакрата Яновіча. Свайго голасу не падала і Праваслаўная царква.

Мерапрыемствы, якія служылі распаўсюджванню ведаў пра сучасную Беларусь і яе культуру праціягваліся ў Беластоку 21 і 25 сакавіка г.г. 21 сакавіка прайшла першая прэзентацыя з цыкла „Беларусь у крузе еўрапейскай культуры". Задумалі гэты цыкл Беларускі саюз у Польшчы ды Цэнтр грамадзянскай адукацыі „Польшча-Беларусь". На прэзентацыю склаліся тры асобныя мерапрыемствы: сустрэча ў Ваяводскай публічнай бібліятэцы з паэтамі Славамірам Адамовічам і Ігарам Бабковым, канцэрты рок-гуртоў „Новае Неба" і „НРМ" у клубе „Метро" ды адкрыццё ў Беластоцкай галерэі „Арсенал" выстаўкі „Каралеўства Беларусь". 25 сакавіка ва Універсітэце ў Беластоку адбылася вечарына арганізаваная Беларускім аб'яднаннем студэнтаў, на якую склаліся даклад доктара Алега Латышонка пра дзяржаўную традыцыю ў Беларусі, канцэрт гродзенскага барда і акцёра Віктара Шалкевіча ды прэзентацыя анталогіі новай беларускай паэзіі „За небакраем Еўропы" (на польскай мове).

Грамадзянін Польшчы (беластачанін-паляк не з'яўляецца тут выключэннем) сузірае беларускую культуру перш за ўсё праз прызму ўзніклай у Рэспубліцы Беларусь палітычнай сітуацыі, у выніку якой беларуская дзяржава перастае бачыцца як асобны твор, суб'ект. У сітуацыі аўтарытарнай улады ды поўнай маргіналізацыі палітычнай апазіцыі культура ў Беларусі набывае першаступеннае значэнне — становіцца супрацьвагой замашкам звесці прыкметы беларушчыны ў нішто. Гэтая культура ў Польшчы амаль і невядомая.

Рэзкая пераарыентацыя ў беларускай культуры (прынамсі ў літаратуры) вызначаецца на канец васмідзесятых гадоў — гэта ўзнікненне літаратурнай суполкі „Тутэйшыя". Новае ў творчасці пакалення „тутэйшых" — гэта змена жыццёвай перспектывы з агульнасаюзнай, імперскай на сваю нацыянальную, мясцовую, „тутэйшую". Інакш кажучы, творцы культуры перасталі быць грамадзянамі Савецкага Саюза, а свой лёс звязалі з канкрэтнымі адрасамі ў роднай Беларусі. Еўрапейская культура бачыцца імі як супольнасць шматлікіх нацыянальных культур.

Да пакалення „Тутэйшых" належаць Славамір Адамовіч і Ігар Бабкоў, сустрэча з якімі прайшла ў рамках прэзентацыі „Беларусь у крузе еўрапейскай культуры". Абодва яны ўяўляюць супрацьстаўны падыход да паэзіі. С. Адамовіч — прыклад ангажаванай паэзіі, якая засмоктвае паэта цалкам (за верш на рускай мове „Убей президента" адсядзеў ён 10 месяцаў у турме; размову з ім чытайце ў наступным нумары). І. Бабкоў сузірае свет з цалкам іншай пазіцыі — неліры̆чнай, неангажаванай, пранікнутай халодным інтэлектуалізмам. На вечарыну 25 сакавіка ў Беласток даехалі яшчэ два аўтары, творы якіх знаходзяцца ў анталогіі „За небакраем Еўропы" — Галіна Дубянецкая і Людка Сільнова. Згаданую анталогію выдала Праграмная рада нашага тыднёвіка.

Выстаўка „Каралеўства Беларусь" у „Арсенале" з'яўляецца прэзентацыяй сучасных не-літаратурных адгалінаванняў беларускага мастацтва.

Іншых артыстаў-удзельнікаў сёлетняга святкавання Акта 25 Сакавіка чытачу „Нівы" не трэба асобна рэкамендаваць. Гурты „Новае Неба" (на здымку канцэрт у „Метро" з 1997 г.), „НРМ" і „Уліс" — вельмі добра вядомыя маладому пакаленню беларусаў. А Віктар Шалкевіч у гэты момант хіба самы папулярны на Беласточчыне выканаўца беларускай аўтарскай песні.

**Аляксандр Максімюк**

## У нумары

Белавежа была ўжо павятовым цэнтрам ✓ стар. 3

Няпэўная будучыня Беларускага музея ў Гайнаўцы ✓ стар. 3

Гаспадарчыя клопаты сённяшняй Беларусі ✓ стар. 4

Пікет перад беларускім пасольствам у Варшаве ✓ стар. 4

Пробныя экзамены гайнаўскіх ліцэістаў ✓ стар. 8

Паэтычны вечар з Алесем Барскім ✓ стар. 8

Вяртанні з Варшавы ў Орлю ✓ стар. 10

# Мы прачыталі

*Rozprawianie się z przeszłością jest naszym ulubionym sportem narodowym. To, czym w rozsądnych krajach zajmują się historycy, badacze dziejów myśli politycznej i hobbyści, w Polsce stanowi zasadniczy element programów rządzenia. Grzebanie w przeszłości nie ma przy tym służyć lepszemu konstruowaniu przyszłości. Jest to cel sam w sobie, obudowany na ogół podniosłymi hasłami moralnymi. W takiej atmosferze trudno zbudować autostradę, łatwo zaś wdeptać w błoto przeciwników, którzy są akurat niewygodnymi. Wszystko nabiera politycznego znaczenia. Pijaczek złapany za kierownicą z legitymacją poselską w kieszeni mówi posępnie o „prowokacji określonych sił”. Minister, codziennie plączący się we własnych sznurowadłach, przytacza mądrą sentencję o „karawanie, która jedzie dalej”. Nieśmiała krytyka mediów (prawdziwie brutalnej, w amerykańskim stylu, jeszcze u nas nie ma) przyjmowana jest jako spisek pismaków, których trzeba wzgardliwie odrzucać,* — піша Тадэўш Яцэвіч.

*Kurier Poranny, nr 60*

Рэдактар Яцэвіч, відаць, не сустрэўся яшчэ з нашымі тутэйшымі беларускімі палітыкамі. Шкада, мог бы пачуць найпраўдзівейшую праўду пра маральнасць і прафесіяналізм „пісмакуў”.

* * *

*Przed wojną policja polityczna nie przekroczyła tysiąca funkcjonariuszy. Teraz UOP liczy ponad siedem tysięcy ludzi. Nie mają wiele do roboty, muszą wymyślać sobie jakieś zajęcia. W służbach specjalnych nadal panuje przeniesiona z okresu panowania komunistów schizofrenia tajności i szpiegomanii.*

*Gazeta Wyborcza, nr 61*

* * *

*To brzmi nieprawdopodobnie, ale na dalekiej Północy w Republice Komi i Okręgu Jamalsko-Nienieckim koczują ciągle wolni Nieńcy. To jeszcze nic. Oni byli także w czasach ZSRR. Nie znają języka rosyjskiego i smaku wódki, nigdy nie służyli w wojsku, nie mają radzieckich dowodów osobistych, nie znają granic administracyjnych, których w ZSRR nie wolno było przekraczać. Władza radziecka tropiła koczowników jak zwierzęta. Nazywała ich kułakami. Urządzano na nich regularne polowania, jak na wilki, do których strzelało się tutaj z samolotów. Mordowano całe rodziny wraz ze stadami tylko dlatego, że nie chciały do kołchozów.*

*Gazeta — Magazyn, nr 11*

* * *

*В Белоруссии спокойствие, плодотворно работают все ветви власти, люди почувствовали, что они во всех смыслах защищены государством. Моральный авторитет Главы государства высок, его политику разделяют люди. А оппозиция это толкотня за лидерство и клоунада вокруг деятельности Позняка. Продолжают свою „борьбу” не за какие-то идеалы, но на самом деле борются за гранты, оплаченные загранпоездки, разные подачки. Не останавливаясь при этом перед клеветой на Беларусь. В этой связи особенно отвратителен недавний шабаш в Белостоке, где минские „патриоты” желая угодить полякам, совершили такой прилюдный стриптиз, что было не то чтобы обидно, а стыдно за них,* — сказаў „глава Администрации Президента М. Мясникович” газеце

*Советская Белоруссия, 11.03.1998 г.*

„Советскую Белоруссию” мінчукі называюць „эсбэ”, а яе творчасць — „акупацыйнай прапагандай”.

* * *

*Казачнікі з Беларускага Тэлебачання зноў узгадалі сваю саматужную байку, быццам бы ў Беластоку створаны „падрыўны цэнтр”. Відаць, менавіта тут павінны выраблядца атрутныя кулі і таблеткі з цыяністым каліем. Дарэчы, у адкрыцці Цэнтру прысутнічаў прадстаўнік афіцыйных беларускіх уладаў М. Крэчка — генеральны консул Беларусі ў Беластоку. Няўжо таксама „падрыўнік”?*

*Беларус, н-р 451*

* * *

*У фільме „Звычайны прэзыдэнт”, які быў выпрадукаваны ў Беларусі, ёсць месца, дзе паказана, як лукашэнкаўскія паслугачы на заказе свайго лідэра, здымаюць беларускі дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг, рвуць і рэжуць яго на кавалкі, а кіраўнік лукашэнкаўскай канцылярыі Іван Ціцянкоў з шалёным рогатам паднісвае кавалкі зняслаўленага сцягу і раздае іх прысутным на гэтым ганебным відовішчы. Вось якія людзі, а хутчэй нелюдзі, кіруюць Беларусяй.*

*Беларускі Дайджэст, н-р 2*

* * *

*Ruszył wiosenny sezon piłkarskich rozgrywek. Plemiona wypowiedziały świętą wojnę. Wojna jest totalna, każdy z każdym. Ale plemiona potrafią się zjednoczyć w obliczu wspólnego przeciwnika. Wtedy ruszają blade twarze. Zbuntowane szczepy noszą swojskie nazwy: Legia, Lech, Widzew, Arka... „Blade twarze” to policyjne oddziały prewencji, zwane przez Indian zamiennie: gestapo, zomo albo mordercy. Wojna jest otwarta. Leje się krew, padają ofiary. Bitwy staczane są w regularnym cyklu wiosna — jesień. W okresie lata i zimy obowiązuje nieformalne zawieszenie broni, ale ostatnio czas przerwy w bojach już nie jest respektowany. Indianie dążą do doskonałości. Idealny model to walczyć bez wytchnienia, cały rok na okrągło. Niejasny jest cel totalnego dżihadu, w którym nikt nigdy nie osiągnie ostatecznego zwycięstwa.*

*Polityka, nr 11*

# З мінулага тыдня

**Расейскае акцыянернае таварыства „Газпрам”** патрабуе ад Польшчы неадкладна ліквідаваць задоўжанасць (100 мільёнаў дол.) за пастаўлены ў 1997 г. і раней газ. У іншым выпадку шэф таварыства **Рэм Вяхіраў** пагражае, што спыніць пракладку ямальскага газаправода на тэрыторыі Польшчы. Спыненне можа таксама адбіцца ў выніку пратэстаў сялян і непрыхільных інвестыцый польскіх гаспадарчых законаў. У такой сітуацыі газаправод пойдзе цераз Балтыку ўздоўж Літвы, Латвіі і Эстоніі, — сказаў шэф „Газпрама”.

**Уладзімір Букоўскі**, расейскі пісьменнік і гісторык, аўтар кніг, у якіх выкрываецца камунізм, наведаў Польшчу, а нагодай для візіту паслужыў выхад ягонай кнігі „Маскоўскі працэс. Дысідэнт у архівах Крамля”. Адзін з раздзелаў згаданай кнігі называецца „Міф аб інвазіі” і раскрывае закуліссе ўвядзення ваеннага становішча ў Польшчы. Госць сустрэўся таксама з чытачамі ў Беластоку.

**Беларускія прадпрымальнікі** з Менска, Гродна, Гомеля, Віцебска ды іншых гарадоў рэспублікі ды гаспадарчыя місіі з Літвы і Калінграда прынялі ўдзел у XI Кірмашы будаўніцтва і інтэр'ера, на які ў Беласток прыехалі 80 вытворцаў будаўнічых матэрыялаў і мэблі. Плёнам пабыўкі бізнесменаў з-за ўсходняй мяжы на кірмашы было наладжанне дзелавых кантактаў з польскімі фірмамі. У маі частка ўдзельнікаў кірмашу, якія хочуць супрацоўнічаць з Усходам, наведаюць з гаспадарчай місіяй Беларусь.

**Універсітэт** у Беластоку на 1998/99 акадэмічны год на дзённым магістэрскім аддзяленні **русістыкі з беларусістыкай** падрыхтаваў 30 месц. Аб прыняцці на першы курс вырашаць будзе кваліфікацыйная размова наконт ведання рускай або беларускай моў, або граматыкі польскай мовы.

**Беласток** — 300-тысячны горад, расходуе 60 тысяч кубаметраў вады ў суткі. Паводле санэпідэмстанцыі, утрыманне канцэрагеннага хлараформу ў вадзе перасягае дапушчальныя нормы. Канцэнтрацыя хлараформу ў беластоцкай водаправоднай сетцы летам дасягае часам нават 90 мікраграмаў на літр і ўтрая перавышае дапушчальную норму. Санэпідэмстанцыя аб няякаснасці вады не раз паведамляла адказныя за стан вады установы, але безвынікова.

Гарадская рада **Браньска** аднадушна выказалася за прыналежнасць да павета ў Бельску-Падляшскім. У прынятай заяве радныя адмежаваліся ад „прапанаванага рознымі мясцовымі асяроддзямі” павета ў Цеханоўцы. У заяве браньскіх радных пішацца, што „усялякія эканамічныя абумоўленасці, гаспадарчы патэнцыял, база і гістарычныя фактары ствараюць магчымасць узнікнення Бельскага павета, які ўзніме заданні, звязаныя з дэцэнтралізацыяй краіны”.

**Бурмістр Гайнаўкі** і Саюз польскіх настаўнікаў падпісалі пагадненне аб прынцыпах аплаты працы непедагагічных работнікаў асветна-выхаваўчых устаноў у горадзе. Гэта першае такога роду працоўнае пагадненне ў Беластоцкім ваяводстве, якое гарантуе карысьнейшыя ўмовы платы для 166 працаўнікоў.

**З краявіду Беласточчыны** ў апошніх гадах беспаваротна прапала звыш дваццаці асабліва каштоўных валуноў, якія проста былі разбіты і вывезены ў якасці будаўнічай сыравіны. Паводле закона аб ахове прыроды такія дзеянні расцэньваюцца як злачынства, але ніводзін вінойнік да гэтай пары не быў выяўлены і пакараны. Цяпер вядзецца акцыя ўстанаўлівання інфармацыйных шыльдачак каля 50 занесеных у спіс помнікаў прыроды валуноў.



# Весткі з Беларусі

**Ушанаванне БНР**

Каля пяці тысяч чалавек выйшла ў Менску на дэманстрацыю, праведзеную Беларускім народным фронтам у гонар 80 гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Удзельнікі шэсця маршыравалі пад гістарычнымі бел-чырвона-белымі сцягамі і транспарантамі з лозунгамі „Хочам незалежнай Беларусі”, „Далоў прэзідэнт Лукашэнка” ды скандзіравалі „Жыве Беларусь!”. Міліцыя затрымала 50 удзельнікаў дэманстрацыі.

**Прэзідэнцкае абурэнне**

16 сакавіка Аляксандр Лукашэнка заслухаў даклады вышэйшых службовых асоб аб становішчы на валютным рынку, якое паўплывала на цэнаўтварэнне ў рэспубліцы. Прэзідэнт вельмі негатыўна ацаніў сітуацыю, што прывяла да падзення курсу беларускага рубля. „Тое, што адбылося, не мае аб'ектыўных прычын і ў многім народжана толькі спекуляцыямі на валютным рынку, якія ўзмацніліся падчас адсутнасці прэзідэнта ў краіне”, — гаворыцца ў паведамленні Адміністрацыі Прэзідэнта. Прэзідэнт запатрабаваў неадкладна павысіць курс рубля, знізіць цэны і вызваліць ад займаемых пасад шэраг высокіх чыноўнікаў, у тым ліку і Генадзя Алейнікава — старшыню Нацыянальнага банка.

**Падтрымка беларусам у Польшчы**

Рэгіянальную праграму падтрымкі нацыянальна-культурнага развіцця беларусаў у Польшчы ўпершыню зацвердзіў Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт. Гэты дакумент уключае шэраг мерапрыемстваў інфармацыйнага, навуковага, арганізацыйна-праваўога характару і разлічаны на бліжэйшыя тры гады. Аднак, асаблівае месца ў ім займаюць напрамкі, якія датычаць падтрымкі культурна-асветніцкай дзейнасці беларусаў, што жывуць у Польшчы, сфарміраваных імі аб'яднанняў, вывучэння беларускай мовы. Праграмай прадугледжана сумеснае правядзенне святаў песні, танца, музыкі і нацыянальных абрадаў, традыцыйных творчых сустрэч і фестываляў. Вялікая ўвага ўдзелена абмену вопытам у выкладанні беларускай мовы і літаратуры паміж педагогамі Прынямоння і Беластоцкага ваяводства, у тым ліку на базе Гродзенскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў і спецыялістаў адукацыі.

**Зніжэнне цэн**

У другой палове сакавіка ўсе магазіны правялі перападлікі тавараў. Для ліквідацыі нядаўняга скачка цэн прымяняліся меры прамога адміністрацыйнага ўздзеяння. Невыкананне дырэктывы Міністэрства гандлю пагражае звальненнем кіраўнікам дзяржаўных магазінаў і прыпыненнем дзеяння ліцэнзіі для прыватных гандлёвых пунктаў. У выніку 36 тысяч прадпрыемстваў гандлю вярнуліся да ўзроўню цэн, што існаваў да пачатку сакавіка. Рост цэн выклікала рэзкае зніжэнне курсу беларускага рубля. Каб прадухіліць стыхійны экспарт таннай беларускай прадукцыі за межы рэспублікі, у паўднёвых і ўсходніх рэгіёнах краіны ўстаноўлены больш жорсткі кантроль за нормамі водпуску прадуктаў у адны рукі.

**Візіт польскіх гаспадарнікаў**

У Менску з візітам пабывала рабочая дэлегацыя Міністэрства эканомікі Рэспублікі Польшча, на чале з намеснікам міністра гэтага ведамства Бернардам Блашчыкам, які адначасова з'яўляецца і новым сустаршынёй беларуска-польскай змешанай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. У ходзе візіту адбылася сустрэча Бернарда Блашчыка з кіраўніком ведамства знешнеэканамічных сувязей Міхаілам Марыничам.

**Меншыя пастаўкі газу**

Расейскі „Газпрам” паступова скарачае аб'ёмы паставак у Беларусь прыроднага газу ў сувязі з запазычанасцю беларускага боку. Доўг Беларусі за газ пастаўлены ў 1997 і ўжо ў 1998 гадах дасягнуў 216,9 млн. долараў. Урад Беларусі можа прыняць адпаведныя меры ў выпадку, калі пастаўкі расейскага газу ў краіну будуць скарочаны на 30%. Сярод магчымых крокаў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг назваў меры ў адносінах да транспарціроўкі расейскага газу праз тэрыторыю Беларусі, а таксама ў адносінах да прадпрыемстваў, якія працуюць на давальніцкім газе.

# Ці Белавежа стане паветам?

Гайнаўка ўспалохалася! Здавалася ёй, як не круці, яна адзіная мае непаруннальны козыр узначаліць будучы павет. А тут, вось, дрымучая дагэтуль Белавежа публічна заявіла аб сваіх прэтэнзіях на той жа павет. Проста, шок! Закалоту нарабілі супольна Адам Вайрак і Лех Навацкі, друкуючы артыкулы па гэту тэму — адзін у „Gazecie Wyborczej", другі ў „Głosie Białowieży". А калі артыкулы былі надрукаваны ў нумарах з датай іншай, чым 1 красавіка, выходзіць на тое, што рэдактары ставяць справу ўсур'ёз!

На першы погляд, утварэнне павета з цэнтрам у Белавежы здаецца ідэяй нерацыянальнай, нават гумарыстычнай. Але глянььма на справу шырэй. Магчыма, не ўсе ведаюць, што Белавежскі павет ужо існаваў. Праўда, коратка, з лютага 1921 г. да 11 ліпеня 1922 г. (абодва журналісты памыляюцца пішучы, што Белавежскі павет існаваў у 1920—1925 гадах). Паводле ўсеагульнага перапісу насельніцтва Рэчы Паспалітай ад 30 верасня 1921 г., Белавежскі павет займаў плошчу 1 602 квадратныя км, ахопліваў 3 гміны са 157 мясцовасцямі, у якіх пражывала 17 879 чалавек. Пасля ліквідацыі Белавежскага павета сама Белавежа апынулася ў Бельскім павеце.

Пачынаючы з 1921 г., у Белавежы змяшчалася Дырэкцыя дзяржаўных лясоў, пад якую, напрыклад, у 1938 г. падлягала аж 55 надлясніцтваў і гайнаўскі тартак. Такім чынам Белавежа з'яўлялася вялікім адміністрацыйным лясным цэнтрам.

У той час ранг Гайнаўкі, у параўнанні з Белавежай, быў намнога меншы. У Белавежы вырашаліся ўсе справы, якія датычылі гэтага раёна. Пра Белавежу ўсе ведалі, пра Гайнаўку чулі толькі некаторыя. Нават лісты адрасаваліся: Гайнаўка каля Белавежы.

На жаль, вайна прыдушыла Белавежу. Ролю адміністрацыйнага ляснога цэнтра пераняў з часам Беласток. Гайнаўка ў сваю чаргу пачала мацней „высмоктваць" пушчу, хутка пераўтвараючыся ў прамысловы горад. Можна сказаць, вырасла яна на пушчы, якой сэрца ўсё ж знаходзіцца ў Белавежы.

Белавежа ў сваю чаргу пераўтварылася ў навукова-даследчы і турысцкі цэнтр. Развінулася тут таксама лясное школьніцтва. І хаця лік яе жыхароў рэзка паменшыўся ў параўнанні з міжваенным перыядам, славай перарастае Гайнаўку надалей, хаця ў гэты момант ніхто ўжо на канвертах не піша: Гайнаўка каля Белавежы (тым больш наадварот).

У апошнія гады, калі Белавежская пушча лічыцца найважнейшым аб'ектам на Гайнаўшчыне, ад якога будзе залежаць далейшы лёс цэлага раёна, Белавежа зноў становіцца яго́ным цэнтрам. Не ў Гайнаўцы, а ў Белавежы менавіта адбываюцца зараз сустрэчы, на якіх вырашаецца будучыня і пушчы, і прылягаючага да яе наваколля. Белавежская пушча будзе цяпер рашуча вырашаць аб вобразе жыцця на Гайнаўшчыне (а мо і на Беласточчыне?).

Аб прапанове ўтварыць Белавежскі павет станоўча, хоць яшчэ стрымана, выказваюцца тутэйшыя вучоныя і прадстаўнікі гмінных улад. Таксама большасць жыхароў Белавежы прыхільна ставіцца да гэтае думкі. Вось, у праведзеным нядаўна апытанні пра стварэнне тут павета выказалася аж 81 працэнт апытаных.

Астаецца паставіць пытанне: ці ў найбліжэйшы час у Белавежы ўзнікне моцная „за-паветная група", якая пачне ўсур'ёз змагацца за справу? Пакуль што, такіх сімптомаў не прыкмячаю, але гэта яшчэ пра нішто не сведчыць.

**Пётр Байко**

# Што будзе з Беларускім музеем?

**12 сакавіка 1998 года Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры і Галоўнае праўленне БГКТ пісьмова звярнуліся да віцэ-прэм'ера і заадно міністра фінансаў Лешка Бальцаровіча з просьбай прызначыць з рэзерва дзяржаўнага бюджэту Рэчы Паспалітай Польскай 2 мільёны 620 тысяч злотых на заканчэнне пабудовы Музея беларускай культуры ў Гайнаўцы і прывязденне яго ў дзейнасць.**

Гісторыя пабудовы Музея ў Гайнаўцы чытачам „Нівы" вядомая. Трэба толькі прыгадаць, што 22 лютага 1996 года паміж Грамадскім камітэтам пабудовы Музея, Галоўным праўленнем БГКТ і беластоцкім ваяводам было падпісана пагадненне, якое прадбачвала стварэнне Музея беларускай культуры ў Гайнаўцы ў якасці дзяржаўнай установы з такім улікам, што ўладальнікам будынкаў і зямельнага ўчастка, на якім яны стаяць надалей будуць ГКПМ і ГП БГКТ. Пасля прыняты быў статут і на падставе пастановы прэм'ера Уладзімежа Цімашэвіча ад 30 красавіка 1997 г. на будову Музея былі прызначаны 400 тыс. злотых (60 тыс. зл. атрымалі 29.07.1997 г. і 340 тыс. зл. — 28.10.1997 г.). Падпісаныя з беластоцкім ваяводам, які з'яўляецца прадстаўніком урада РП, пагадненні прадбачвалі і пазнейшае фінансаванне будовы, і прывядзенне Музея ў дзейнасць.

— Ні праект бюджэту кааліцыі СЛД-ПСЛ, ні праект цяперашняга ўрада не прадбачвалі ні залатоўкі на пабудову і дзейнасць Музея ў гэтым годзе, — гаворыць Ян Хіліманюк, намеснік старшыні ГКПМ. — Хаця Камісія па справах нацыянальных меншасцяў і Камісія культуры і сродкаў масавай інфармацыі станоўча адгукнуліся на прапановы прызначэння адпаведных сродкаў на Музей, дык Камісія публічных фінансаў не адобрыла прапанову і ў час галасавання над дзяржаўным бюджэтам РП яна прапала.

За 400 тыс. зл. Бельска-падляшскае будаўнічае прадпрыемства зрабіла ў будынку „Ц" цэнтральнае ацяпленне, электраўстаноўку, сігналізацыю супраць узлому, палажыла тынкі і падрыхтавала падлогу, каб класці мармур і граніт. Папраўлена была таксама аконная сталярка і зроблены дубовыя дзверы. Ад 12 да 21 студзеня г.г. Найвышэйшая палата кантролю правярала ў Музеі, як выдаткоўваліся грошы з дзяржаўнага бюджэту. У паслякантрольных заўвагах ад 3 лютага г.г. заяўляецца, што толькі купля дубу адбывалася няправільна, без публічнай прапановы.

— Мы не мелі часу арганізаваць публічную куплю. А дубу ж так лёгка і не купіш, — паясняе Ян Хіліманюк. — Каб закончыць усю пабудову, трэба яшчэ 1 мільён 145 тыс. злотых паводле цэн з 1997 года; 571 тыс. зл. на будынак „Ц" (дакончыць усё ўсярэдзіне і пакласці тынкі звонку); 193 тыс. зл. на будынак „А", у якім зараз крама „Унібуда"; 381 тыс. зл. на агароджу, дарогі і ўсе працы вакол будынкаў. Зараз неабходна канчаць работы ў будынку „Ц". Каб не змарнаваць тынкаў, трэба ацяпляць памяшканні да тэмпературы 8—10°С. У просьбе да віцэ-прэм'ера мы і звяртаем увагу на неабходнасць хуткага прызначэння сродкаў дзеля завяршэння будовы будынка „Ц".

* * *

Рэчаіснасць паказвае, што не ўсім дамовам і пагадненням можна даваць рады. Прапаў у Гайнаўцы аптымізм звязаны з хуткім заканчэннем будовы Музея, хаця засталіся яшчэ надзеі на прыхільнасць лідэра Уніі вольнасці.

**Аляксей Мароз**

# Арлянскія водаправоды і ачышчальня



*Ачышчальня стаіць ад 1992 г., а неачышчаныя сцёкі далей забруджваюць Арлянку.*

У 8 н-ры „Нівы" ад 22 лютага г.г. аўтар (яц) у допісе „Водаправодная сетка завершана" аб'яўляе свету, што ў гміне Орля ўсе вёскі маюць ваду з крана і ў дадатак яна чыстая як крышталь. Відаць, аўтар не быў у Орлі і не гутарыў на гэтую тэму з жыхарамі. Калі б ён прыехаў да нас, тады даведаўся б аб клопатах карыстальнікаў водаправоднай лініі ў самой Орлі і ў навакольных вёсках.

Напрыклад, на вуліцы Свярчэўскага ў Орлі нівеліроўка грунту праводзілася пасля таго, як трубы закапалі ў зямлю. А калі бульдозер сабраў верхні слой грунту, водаправодная сетка апынулася блізка паверхні зямлі, пад самім асфальтам дык пры мацнейшым марозе трубы замярзаюць і вада ў дамы не паступае аж да адлігі. Падобных прыкладаў неахайных работ можна знайсці больш.

А вось, што пра хвалёны (яц) водаправод гавораць жыхары Арлянскай гміны:

— Войт па ўсіх вёсках праклаў трубы, але што з гэтага, калі яны ляжаць надта плытка — усяго 80 см пад зямлёю.

— Калі ў Міклашах здарыцца аварыя, тады ў Орлі і Міклашах няма вады. А ў Орлі вада павінна быць пастаянна, бо там жа працуе пякарня. Справа ў тым, што ніхто не ведае, дзе знаходзяцца заслонкі.

Шчыты — Навадворы і Дзенцялова — яшчэ да гэтай пары не падключаны да гміннай водаправоднай сеткі і вымушаны карыстацца няякаснай вадой, якую падае ім СКРаўская гідрафорня на свінаферме.

Апрача водаправода войт у лік сваіх дасягненняў занёс яшчэ ачышчальню. Аднак жыхары пра гэтае збудаванне гавораць не вельмі энтузіястычна:

— Ачышчальня сцёкаў, хаця была здадзена ў карыстанне ў 1992 г., не выкарыстана. Прычына — не хапае грошай на біялагічную садку, якая каштуе 15 млн. зл. Да ачышчальні падключаны толькі новая школа і тры прыватныя будынкі і неачышчаныя сцёкі ад іх выліваюцца непасрэдна ў раку.

— Вынік атрымаўся ў нас такі — у Орлі ёсць ачышчальня, стаяць будынкі, але ўсе фекаліі, так як і раней, аплываюць сабе спакойна ў Арлянку.

— Няма ў нас каму дбаць пра нашы справы, — з сумам сцвярджаюць жыхары Орлі.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Недарэчнасць

Нядаўні пратэст супраць уезду ў Чаромху аўтамабіляў TIR, вынесены партыяй пенсіянераў (KPEiR), прымусіў мясцовую ўладу задумацца над месцам пабудовы стаянкі для мытнага кантролю гэтых аўтамабіляў. Паводле гміннага кіраўніцтва, адпаведнае дзеля гэтага месца — каля чыгуначнага вакзала. І вось, калі старшыня Управы Гміннай рады звярнуўся ў Цэнтральную дырэкцыю ПКП у Варшаве ў справе арэнды пляцоўкі пад пабудову стаянкі, варшаўскія чыгуначныя чыноўнікі пажадалі па 3 тысячы злотых за квадратны метр. Значыцца, за 120 кв. м гміна вымушана была б заплаціць 3600 зл. (360 мільёнаў старых злотых). Ці ж гэта не абсурд?

Вядома, гміна пакуль не пагадзілася на такую цану — будзе весці далейшыя перамовы. З якім вынікам — невядома.

На маю думку, чыгуначная вярхушка любой цаной намагаецца „зараць" Чаромху або пераўтварыць яе ў скансэн і таму выступае супраць усіх інвестыцый у пасёлку. Сведчыць аб гэтым ліквідацыя чыгуначнай лініі Бельск — Гайнаўка — Белавежа, а таксама і ліквідацыя духавога аркестра, які меў быць, прыгадайма, рэпрэзентатыўным калектывам усяго ўсходняга рэгіёна чыгуначных прадпрыемстваў. Вось як ставіцца Генеральная дырэкцыя ПКП у Кракаве да „меншасці з-за Буга". **(ус)**

# Пікет у Варшаве

22 сакавіка 1998 года перад пасольствам Рэспублікі Беларусь у Варшаве адбылася дэманстрацыя, якую ладзіла Беларускае аб'яднанне студэнтаў пры дапамозе членаў Беларускага народнага фронту і маладых стралкоў з КПН. Прычынай пікета была 80-я гадавіна абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пікет пачаўся ў 13 гадзін. Прыйшло каля 40 асоб. Гэта, як гавораць яе арганізатары, многа. Старшыня БАС Міраслаў Пац сказаў, што гэта найбольшая такая дэманстрацыя ў Варшаве, а Янка Чурыловіч з БНФ абвясціў на пачатку мэту дэманстрацыі. Наладжана яна не толькі для таго, каб адзначыць гадавіну абвяшчэння БНР, але і для таго, каб запратэставаць супраць аўтарытарнай улады ў Беларусі.

Намеснік старшыні БАС Марк Гаўрылюк прадставіў гісторыю свята. Пасля гаварыў паляк, які нарадзіўся на Беларусі і які ад 1945 года жыве ў Польшчы. Ён успамінаў Беларусь бел-чырвона-белую з Пагоняю і выказаў надзею, што беларуская дзяржава будзе незалежнай і дэмакратычнай. Затым дэманстранты адзначылі „заслугі" Лукашэнкі фашысцкай свастыкай, а потым спалілі партрэт Лукашэнкі, а таксама сімвалы цяперашняга рэжыму — чырвона-зялёны сцяг і „капусту" — герб, які нагадвае сімволіку Савецкага Саюза.

Хвілінай маўчання дэманстранты ўшанавалі памяць усіх загінуўшых за свабоду Беларусі. На карце Рэспублікі Беларусь запалілі знічы. Пад бел-чырвона-белымі сцягамі пікетчыкі праспявалі „Пагоню" і „Айчыну". Гэтая другая песня мела адлюстроўваць народную свядомасць беларусаў у Беларусі. Цэлы час раздаваліся воклічы: „Жыве Беларусь", „Лукашызм — фашызм" і „Прэч з Лукашэнкам".

Жыхары Варшавы з зацікаўленнем глядзелі на малых дэманстрантаў. Былі і смехі, і абурэнне. Бабуля, якая праходзіла побач, сказала па-беларуску: „Праклятыя нацыяналісты".

На пытанне пра сэнс такіх пратэстаў Марк Гаўрылюк адказаў: „Калі б мы тут не прыходзілі, тады ніхто не цікавіўся б тым, што дзеецца ў Беларусі. Людзі не ведалі б, што ў Польшчы таксама жывуць беларусы, якія прызнаюцца да сваёй нацыянальнасці".

Маніфестацыя праходзіла спакойна, без эксцэсаў. На месцы было войска, паліцыя і гарадская стража.

Ці такія дэманстрацыі могуць штосьці змяніць? Цяжка сабе гэта ўявіць. Але беларусы ў Варшаве паказалі, што яны ёсць, а 25 сакавіка паставілі ў вокнах свечкі — сімвал таго, што Беларусь усё ж такі жыве.

**Катажына Аўсяйчук**

# Сакавіцкія віншаванні

## *Дарагія суайчыньніцы і суайчыньнікі!*

Сардэчна віншуем усіх вас з галоўным нацыянальным сьвятам беларускага народу — Днём Незалежнасьці 25 Сакавіка.

Сёлетняе сьвята асабліва ўрачыстае: мы адзначаем 80-я ўгодкі абвешчаньня „на сьвет цэлы" волі беларусаў мець сваю незалежную дэмакратычную дзяржаву. За два гады да канца тысячагодзьдзя добра відаць: менавіта 25 Сакавіка 1918 году ў Менску адбылася галоўная падзея ўсяе тысячагадовае гісторыі нашага народу — утворана Беларуская Народная Рэспубліка.

У канстытуцыйных дакумэнтах Рады БНР дэкляраваліся дэмакратычныя каштоўнасьці, гарантаваліся асноўныя правы чалавека, ахоўвалася права ўласнасьці. Набывалі дзяржаўнае апірышча і гарантыю нацыянальна-культурныя правы беларускага народу. Беларуская мова ўпершыню пасьля стагодзьдзяў каляніяльнага паняволеньня абвяшчалася дзяржаўнаю. Сымбалізавалі дэмакратычную краіну беларусаў старажытныя сьвятыні — бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоня.

Ідэалы БНР, хай не ўвасобленыя адразу, як марылася ўдзельнікам гістарычных рашэньняў 1918 году, выратавальна паўплывалі на лёс нашага народу ў XX стагодзьдзі. У выніку самаахвярнай барацьбы пакаленьняў адраджэнцаў на Бацькаўшчыне і за яе межамі незалежная дзяржава Беларусь зноў зьявілася на карце Эўропы. Але гэта выклікала шалёны супраціў імпэрскіх сілаў, якія робяць усё, каб зьнішчыць незалежную беларускую дзяржаву рукамі сваіх стаўленікаў.

Сёньня, калі ідэалы БНР у небясьпецы, найлепш ушанаваць вялікі юбілей мы можам, згуртаваўшыся ў абароне незалежнасьці Беларусі. Мы цьвёрда верым: эўрапейская, заможная, дэмакратычная беларуская дзяржава XXI стагодзьдзя дасьць магчымасьць годнага жыцьця ўсім сваім грамадзянам і будзе шанаванаю сярод краінаў сьвету.

Жыве Беларусь!

**Соймі Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"**

## *Дарагія Суродзічы!*

Уладу ў Беларусі зноў захапілі з аднаго боку расейскія вялікадзяржаўнікі, якія яшчэ за савецкіх часоў былі прысланыя на нашу Бацькаўшчыну для ўтрыманьня бальшавіцкага парадку, а з другога — іхныя беларускія прыслугачы, урадавыя камуністычныя верхаводы з бэсэсэраўскіх часоў, сорам нашае ціхае нацыі.

Эканамічная і палітычная безразважнасьць, злосьць, нянавісьць і гвалт пануюць на нашай Бацькаўшчыне. Як і за часоў сталіншчыны, цяперашні прэзыдэнт зноў уцягнуў Беларусь у гэпалітычнае падпарадкаваньне Расеі, зрабіў з яе марыянэтку, якая абслугоўвае вялікадзяржаўныя інтарэсы Расейскай Фэдэрацыі.

Вітаючы Вас, дарагія суродзічы, з 80-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, мы верым, што праўда і справядлівасьць пераможа. Двухсотгадовае расейскае панаваньне ў Беларусі ня выкараніла нацыянальнага духу нашага народу, ягонае самабытнасьці. Наш народ застаўся нацыяй. Ня выкараніць іх і сучасная дыктатура.

Няхай Сьветлы Сакавік вядзе нас да поўнае перамогі! Няхай жыве Беларуская Незалежнасьць! Жыве Беларусь!

**Расьціслаў Завістовіч**
**Старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэта Амэрыкі**
**Міхась Сенька**
**Сакратар БККА**

# Гаспадарка Беларусі хістаецца

Весткі, якія плылі з Менска ў апошніх днях сакавіка пацвярджаюць мой тэзіс, што цяпер найбольшым ворагам Лукашэнкі з'яўляецца гаспадарка. Найбагацейшая былая савецкая рэспубліка не вытрымоўвае эканамічнай палітыкі прэзідэнта і яго карумпаваных вертыкальшчыкаў. „Рыначны сацыялізм" аказаўся быць добрым лозунгам толькі для мабілізацыі пенсіянерскага электарату, але зусім паранаічным у гаспадарчай практыцы.

Каб стварыць сацыялістычную гаспадарку, Сталіну спатрэбіліся дваццаць гадоў, некалькі мільёнаў апрычнікаў і дзесяткі мільёнаў ахвяр. Пасля ўсе генсекі вымушаны былі кансерваваць апарат тэрору, без якога сацыялістычная эканоміка не магла ўжо існаваць. Эксперымент Гарбачова, які меў даказаць, што сацыялізм можа існаваць без канцлагераў і пры поўнай свабодзе слова, закончыўся развалам дзяржавы.

Насуперак логікі развіцця палітычных і эканамічных працэсаў, якія ў дзевяностых гадах пачаліся ў сярэдняй і ўсходняй Еўропе, прэзідэнт Лукашэнка вырашыў даказаць усяму свету і грамадзянам сваёй краіны, што адміністрацыйнымі метадамі, воляй аднаго чалавека, можна стварыць дабрабыт, справядлівасць і навесці пажаданы ўсімі парадак. Паводле найлепшых савецкіх узораў распраівіўся ён з апазіцыяй, незалежнымі сродкамі масавай інфармацыі, стварыў заканадаўства, якое дае яму поўную ўладу ў дзяржаве. Асталося толькі стварыць абяцаны дабрабыт. Тым часам сітуацыя грамадзян Беларусі пастаянна пагоршваецца ад некалькіх гадоў. Праўдападобна разам з пабольшваннем прэзідэнцкай уласнасці за кошт дзяржаўнай яму здавалася, што таксама хутка разбагацеюць жыхары краіны. Падаткаабкладанне кожнага, хто толькі займаўся хаця б нейкім дробным гандлем, нагадвае сталінскую палітыку 1928 года, калі вырашана было пакончыць з бальшавіцкім гаспадарчым эксперыментам — „новай эканамічнай палітыкай". Не маючы свайго капіталу і не дапускаючы замежнага, Сталін стварыў з краіны адзін вялікі канцлагер, дзе праца выконвалася не таму, што за яе нехта плаціць, але таму, што нехта загадаў яе выканаць. Але да гэтага патрэбна была поўная ізаляванасць ад вонкавага свету.

У сённяшняй Беларусі стварэнне такой сістэмы немагчымае з тае прычыны, што дзяржава не можа існаваць без гаспадарчых кантактаў з замежжам, а таксама таму, што не ў Менску вырашаецца ход палітычных падзеяў у гэтай краіне. Расія тым часам прыватызавала амаль 70 працэнтаў свае гаспадаркі. Былыя камуністычныя правадыры і іх сямейнае акружэнне сталі цяпер уладальнікамі вялікай маёмасці, найбагацейшымі людзьмі ў Еўропе. Не дазволяць яны, каб нехта абмежаваў ім свабоду карыстацца гэтым багаццем. Таму вяртанне камунізму ў Расіі мала праўдападобнае, хаця пенсіянеры заўсёды будуць хадзіць каля Крамля з іконамі сваіх святых — Леніна, Сталіна і Зюганава.

Загады беларускага прэзідэнта, якія ён дае перад тэлевізійнымі камерамі, каб кіраўнікі магазінаў панізілі цэны, каб дырэктары банкаў знізілі курс долара, выклікаюць ужо толькі смех людзей, якія прынамсі дакрануліся да сапраўднага гандлю, пабываючы на базарах у Беластоку, ці самі прабавалі нешта рабіць у прыватным бізнесе ў мінулых гадах. Такая дэмагогія падабаецца аднак пенсіянерам, рабочым, міліцыянерам. Яны толькі бачаць, што найвышэйшая ўлада загадала каб хлеб, малако ці сала былі таннейшыя. Калі так не сталася, зараз паказалі як міліцыя арыштоўвае „ворагаў народа", якія прыхаваліся ў банках, структурах найвышэйшай улады краіны.

На працягу двух дзён сакавіка беларускі рубель страціў 25 працэнтаў свае вартасці. Той, хто купіў беларускую валюту на маскоўскай біржы, мог ехаць у Мінск, Гомель ці Магілёў і купляць намнога танней усе тавары. Вядома, выкарысталі спрыяльны момант рускія бізнесмены. Пры канцы сакавіка цэны ў Беларусі ўзраслі — адпаведна да курсу долара — на ўсе тавары. Найгоршае, аднак, што пачалі знікаць з магазінаў таксама тавары. Нават найдурнейшы кіраўнік гандлёвай установы, спадзеючыся росту цэн, не спяшаецца з пастаўкай прадуктаў. Лукашэнка за крызісны стан рынку абвінаваціў рускіх спекулянтаў, як бы не заўважаючы, што біржа і банкі ў капіталізме менавіта і створаны для спекуляцыі. Абвінавачванне рускіх банкіраў, што абдурылі беларускіх наменклатуршчыкаў, гэтаксама абсурднае, як дакаранне ваўка, што любіць мяса.

Рускае тэлебачанне паказала прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Лінга, які ў роспачнай позе тлумачыў, што Беларусь не мае ніякіх сродкаў, каб заплаціць за пастаўлены газ і што ўсялякія рускія гаспадарчыя суб'екты вінаваты Беларусі суму ў два разы большую, чым беларуская задоўжанасць для „Газпрама". Але ўласнікаў „Газпрама" не цікавяць праблемы фірмы, якая купіла беларускую бульбу і не мае чым за яе плаціць. Дамагаюцца яны доляраў за пастаўлены газ. Дыялог паміж беларускай наменклатурай і рускімі капіталістамі ўсё больш нагадвае размову глухога са сляпым.

Неўзабаве ў Беларусі пачнецца вялікая дзяржаўная пасяўная кампанія. Калгасы, як штогод, будуць патрабаваць датацыі на салярку, штучнае ўгнаенне, пасяўное зерне. Трэба будзе зноў друкаваць мільярды пустых рублёў, а пасля саджаць у турму, у прысутнасці тэлекамер, чарговых банкіраў, каб паказаць вінаватых у фінансавым правале краіны. Такі фарс у беларускай гаспадарцы можа працягвацца аднак даволі доўга, таму што няма ні ў Беларусі, ні ў Расіі, ні ў Еўропе сіл зацікаўленых рэфармаваннем беларускай гаспадаркі. Беларусь, як нейкая неакрэсленая зона, вельмі ўсім адпавядае.

**Яўген Мірановіч**

# БЕЛАВЕЖА

**СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 459**

**Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ**


**Часлаў МІЛАШ**

## Мая родная мова

Мая верная мова,
служыў табе я.
Кожную ноч ставіў перад табою місачкі з цветам,
каб мела ты і бярозу, і польнага коніка, і снегіра,
і ўсё захаванае ў маёй памяці.

Шмат гадоў так прамінула.
Была ты Айчынай маёй — бо іншай не меў.
Але я думаў, што будзеш ты і пасланніцай
паміж мною і добрымі людзьмі;
няхай сабралася б іх хоць дваццаць альбо дзесяць,
а няхай бы і ніхто яшчэ з іх не нарадзіўся.

А цяпер прызнаюся да сумневу ў веры.
Ёсць хвіліны, калі здаецца, што жыццё прамарнаванае.
Бо ты ёсць моваю падлюгаў,
моваю неразумных і ненавідзячых сябе
больш усіх іншых народаў,
моваю даносчыкаў,
моваю ашалелых,
моваю хворых ад свае цноты.
Толькі хто я без цябе...
Вечны шкаляр недзе ў далёкай краіне —
адно добрае, што без страху і паніжэння.
Хто я без цябе...
Філосаф — ды сёння кожны філосаф.

Так, гэта павінна паўплываць на маё выхаванне:
персанальная слава адсечана.
Грэшніку замест чыткі мараляў
чырвоны дыван рассцілае Вялікая Пахвала,
а тым часам чароўны ліхтар
кідае на палатно абразы людской і Божай мукі.

Мая верная мова,
але я ўсё ж такі мушу цябе ратаваць.
І буду прыносіць табе місачкі з цветам,
і, калі здолею, самым ясным і чыстым буду
таму, што ў кожнае няшчасце патрэбны хоць нейкі лад —
— альбо прыгажосць.

*Пераклаў Алесь ЧОБАТ*

**Леся УКРАІНКА**
**(1871-1913)**

## Забыты цень

Суровы Дант, выгнаннік флярэнцыйскі,
З цемры сярэдневяковага ўзыходзіць часу,
Як гэты час, такія ж й яго песні:
Знайшоў ён іх ў гаі містычным, цёмным
Сярод хаосу летуценняў дзіўных.
Чый дух асмеліўся б ісці за ім блукаць
Па той дуброве, як бы там між церняў
Пярэснай вечна кветкі не цвілі?
Сабраў пясняр сваёй мастацкаю рукою
Ўсе кветкі тыя ж, сплёў іх у вянок,
Скупаў затым ў таемных водах Стыксу,
Ды арасіў нябеснаю расой
І палажыў на ранною магілу
Прыгожай Беатрычэ Парцінары,
Якая раз яму усмешку падарыла,
А другі раз — не глянуўшы прайшла,
А трэці раз — ён на яе глядзеў,
Калі ў труне яна ляжала непарушна.
Яна была яму, нібыта сонца,
Святло што, радасць і жыццё дае,
Каму, не ведаючы нават, гэты дары.
І хоць ягоныя праменні ўжо зайшлі,
Ён не забыў іх ў цемрані варожай,
Ні пры пяшчотным хатнім ачазе.
Ні на зямлі, ні ў пекле, ані ў раю
Ён Беатрычэ не забыў сваю.
Яна валодае адна ў ягоных песнях,
Бо ў той краіне, у якой ён жыў душою,
Ён іншае каханай не знайшоў.
Таму яе вянком ўпрыгожыў гэткай славы,
Якой з жанчын ніхто яшчэ не праслаўляўся.

Дантэ й Беатрычэ — неўміруча пара,
І смерць магутная яе не развяла.
Навошта ж ты, хімерная фантазія,
Паказваеш мне нейкую ўбогу постаць,
Што стала ценем паміж імі трапятлівым,
Як сон самлелага — так невыразна?
Няма на ёй вянка, ні арэолу
І твар яе прыкрыты пакрывалам,
Быццам імглой густой. Ды хто ж яна?
Пясняр яе ніводзін не праславіў,
Мастак ніводзін не намаляваў.
Ды недзе там, на дне гісторыі, глыбока
І пра яе ўспамін схаваны. Хто ж яна?
А гэта ж — жонка Дантэ. Іншае імя
Па ёй не засталося, быццам з роду
Уласнага ў яе і не было.
Жанчына тая ж пуцяводнай зоркай не была,
Як верны цень яна пайшла за тым,
Хто быў павадыром „Італіі няшчаснай".
І раздзяліла з ім выгнання цвёрды хлеб,
Ды распаліла вогнішча яму
Ў хаце чужой. Й не раз
Яго рука, шукаючы апоры,
Абапіралася няйначай на плячо яе.
Пяснярская была ёй слава дарагой,
Але рукі яна не працягнула,
Каб хоць прамень яе адзіны пераняць.
А калі згас ужо агонь вачэй пяснярскіх,
Яна закрыла іх набожнаю рукой.
Так, верны цень! А дзе ж яе жыццё?
Дзе ж ўласны лёс і радасці, і гора?
Гісторыя маўчыць. Але я ў думках бачу
Сумных шмат дзён і адзінокіх,
Праведзеных ў турботным чаканні,
Начэй бяссонных, цёмных, як той клопат,
І доўгіх, як нястача; й слёзы бачу...
Па слёзах тых, як па расе жамчужнай,
Прайшла ў краіну славы — Беатрычэ!

*З украінскай мовы пераклаў*
*Юры ТРАЧУК*

**Сакрат Яновіч**

# Памяць пра Яся-Курыную Дзюбку

Як калісьці ўсе пагулянцы, Ясь краў курэй. Выбіраўся па іх на гаспадарскую Кальварыю. Там было спраўней: падпаўзаў да падворышчаў, пачакаўшы ў чартапалохах, што кусціліся на Доўгім выгане. Сюдою ніхто не хадзіў. Часам спападала яго ў тым заглушку Рыжая Вэрця, нястомная палятуха. Пакачаўшыся з ім, латашыла яна агуркі ў прыўыганскіх агародах (на маласольнасць пад чарку).

Хоць Яся і Вэрцю ведалі местачковыя гаспадары, пакражы ўдаваліся. Шкодзілі яны бабам, таму мужчынам не выпадала падымаць скандал.

Гаспадыні не выпускалі курэй за платы, каб не гублялі яек у крапіве або не панёс каторую ліс. Даволі было Ясю падпільноўваць, калі нікога паблізу. Размотваў ён тугую самаробную вуду з тоўстым чарвяком на кручку і лоўля адбывалася: да крутлявай смачноты дабягала зазвычай самая мажная сакатуха; высоканогі певень меў афіцэрскі гонар і рэдка бываў па-сяржанцку лакомлівым. Падчэпліваў Ясь дурачку, бы пырскаючую рыбу; чарада не заўсёды ўчыняла вэрхал, відавочна кемячы, што шчаслівая каляжанка ўцякае на крылах са здабычаю ў дзюбе... Крычаць не крычала, удушліва вылупіўшыся.

Прапажу прыкмячалі людзі потым, не зусім упэўненыя ў Ясевай тут рабоце. Столькі тае помсты яму, што празвалі кураедам. Не злаваўся; скакаў — аднак — біцца за „Яся-Курыную Дзюбку" (пад рогат дзяўчат). Не было б і тае злосці ў яго, калі б не амбіцыя ад хіхікання расцветных сікунак. Быў жа ў ягоным жыцці час, у які ён з такімі ціпкамі вычвараў, што толькі здумаў, а яны — па вёсках — малебна плакалі і рабілі пасля ціхія аборты... Залатыя дні паваеннага безгалоўя! Бывала, адразу чатыры заганяў клубаваць на сене; маладыя і вогненны, з абрэзам у руках. Мацерку з дочкамі іншы раз. На хутары пад лесам.

Курыная Дзюбка, як кожны гультай, усё кавалераваты на выгляд блізіўся цяпер да саракоўкі. Упэцкаў быў сваё сумленне, лазячы калісь з бандаю, што хадзіла ў даўніх вайсковых шапках ды доўгіх шынялях; чакалі прыходу белай Польшчы. Папаліся гуртам ўзіму сорак сёмага. Ясь, будучы акурат п'яным да бяспамяцці, апрытомнеў у павятовым следчым склепе, добра дастаўшы ад убоўца ў зубы. Угрэў яму ботам і па скабах. І па яйцах, ад чаго званітаваўся. Вылілі на яго вядрыска памыяў. Адзін выбіты зуб застрагнуў яму ў горле і ён зразу не мог яго выкашляць.

Ясь — на сваё шчасце — памятаў пра неадступную кару за грахі, што і вератавала яго. Патрацўся ён сваім здароўем няшмат, дзякуючы абуджанаму ў ім пачуццю вінаватасці і нестарому веку, а таксама набраўшыся розуму выдаць усіх і ўсё. Апошняя акалічнасць вярнула Яся жывым на Пагулянку.

Палічыў, што дастаткова нацярпеўся. А страх, што засеў у ім, не быў страхам здрадніка, але — рызыканта, што пабойваецца марнацьі ўдачы. Акрыяў, даведаўшыся: улады не цацкаліся з іншымі; зрэшты, знелюбіў лясных братоў ад пачатку, за кплівую ад іх празыўку Кныр.

Талент злачынца брыняў у Ясю, як цяжарнасць у бабе. Калі б не падпаў ён пад эпоху сацыялізму, вырас бы першакласным бандытам. У глухой правінцыі тым больш не існавалі адпаведныя магчымасці і Ясь свае здольнасці прамарноўваў у кураедстве ды ў сексуальнасці з растапыранай Рыжай Вэрцяй, нудна падатлівай.

Зладзеяватасць яксьці не пярэчыла ягонай рэлігійнасці. Недзе начытаўся нават, што Хрыстос заклікаў абсцёбваць багатыроў... Ксяндзу пра гэта не казаў ён у споведзь, трапна прадчуўшы, што набярэцца толькі бяды. Апавядаў спавядальніку рэчы і без таго ашаламляльныя, пачуўшы якія гэты мазур у сутане бялеў, задыхаўся і мармытаў пра русінскую дзікасць. Ясь паўтараўся ў канфесіянальных аповедах духоўніку, і той западозрыў яго ў прасцяцкім махлярстве, урэшце сказаўшы, каб ён часта не прыходзіў з грахоўем (шкада часу). Тады жарсць самавыкрыцця апусціў Ясь-Курыная Дзюбка на Рыжую Вэрцю, доўгага языка якое зусім не баяўся; ніхто ёй не верыў у мястэчку. Гэтай лапатунцы.

От, байкі былося Ясю. Я забыўся сказаць, што нарадзіўся ён байструком, а маці памерла ад згрызотаў даўным-даўно, калі швэндаўся тым часам з бандзюкамі. Пакінула яму яна хаціну, у якой асталявалася „маліна" п'янюгаў ды звіхнутых бабаў. Блох і вашэй пазбаўляўся, парачы адзенне ў пастаўленым на пліту вялізным сагане, у якім варыла старая, пакуль жыла, бульбу свінчаці. Каб не той саган, Ясь-Курыная Дзюбка, можа, даўжэй пабыў бы на белым свеце... Малліннікі аднаго разу ўчынілі Ясю нямецкі допыт — лёгкадумна пахваліўся, што прыхаваў даляраў ад тых рабункаў (нібы адна шляхцянка заплаціла імі за тое, каб не забуславаў яе дачушцы-лялечцы). На Курыную Дзюбку кампанія лінула тады кіпенем з сагана, ад чаго ён умомант аслёп; аблезла з яго затым скура, бо ўпалоханыя дурні ратавалі яго халоднаю вадою, а каб не скавытаў у глухую ноч, дакладна заткнулі яму горла шкарпэткаю. Сканаў; задушыўся. Калі сябрукі пабачылі, што гэты іхны фундатар выпрасціўся, паспелі абачліва вырваць з рота нябожчыка ўціснутую шкарпэціну і, зваліўшы яму хітра на грудзі саганіска, змыліся, мала ног не палямаўшы.

Міліцыянт, вечна нецвярозы, прызнаў у трупе самагубства незнарокам. Ніхто не шкадаваў Яся (Вэрця ляпнула нецэнзурным словам). Пахавалі яго коштам гміны. Ксёндз не вельмі заступіўся за Ясеву душу, і столькі людское памяці засталося аб ім, што ў тых дзяўчынят, якіх ён зматлашыў у ваенныя гвалты. Ну і куры перасталі прападаць.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Віктар Шніп

## Мышы купілі лыжы

На лясным базары мышы
За мядзяк купілі лыжы.
Лыжы ў норку валакуць,
Лыжы ў норку не ідуць.
І пішчаць, злуюцца мышы:
— Воўк прадаў благія лыжы!

# У арлянскай святліцы

Школа ў Орлі гэта новы, прыгожы і прасторны будынак. Тут вучыцца 196 школьнікаў. У школе самая вялікая ў наваколлі гімнастычная зала, кухня, сталовая, дзве бібліятэкі і медыцынскі кабінет, у якім працуе медсястра. Трэба спадзявацца, што ў будучыні адкрыюць для дзяцей стаматалагічны кабінет.

— Пакуль што, няма ў нас зубнога лекара, — кажа сакратар гміны Канстанцін Капонаў.

Сёння заглянем у школьную святліцу.

Гаворыць настаўнік **Пятро Фармаsucceeding**



Апрача ўрокаў гісторыі вяду гарцэрскую дружыну і з'яўляюся выхавацелем у школьнай святліцы. У святліцы займаюцца ўсе школьнікі, з нулявога па восьмы клас. Умовы працы нялёгкія, бо толькі двое настаўнікаў, я і спадарыня Міраслава Раманюк, працуем у святліцы. Часам прыходзіць сорак школьнікаў у розным узросце і мы мусім арганізаваць ім адпаведныя для ўзросту заняткі.

Самай цікавай і прыемнай працай з'яўляюцца ўрокі з наймалодшымі (0 — III кл.).

Старэйшыя вучні любяць тэлевізійныя гульні. У апошні час у нас навінка — дырэкцыя купіла спадарожнікавую антэну. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца музычныя праграмы як „Viva" ці „Onyx", або праграмы пра прыроду — „Animal Planet". Дзеці ахвотна іграюць у шашкі і шахматы. У час перапынкаў школьнікі гуляюць у настольны тэніс. У школе свой радыёвузел, якім апякуюцца шасцікласніцы Магдалена Мартыновіч, Дарота Бакун і Бася Навіцкая. Найчасцей гучыць маладзёжная музыка, а ў святочных перыядах калядкі, інфармацыі, камунікаты. Апошнім часам нашы гарцэры святкавалі Дзень скаўта. У лютым г.г. пабывалі мы на двух мерапрыемствах, арганізаваных бельскім гуфцам ЗГП. З нашай школы ўдзельнічала 40 асоб.

І тут хацеў бы я падзякаваць уладам гміны Орля за аўтобус. Хацеў бы таксама звярнуцца да гмінных улад, каб пастараліся аблегчыць працу ў школьнай святліцы. З-за малой колькасці выхавацеляў і цеснаты найбольш церпяць дзеці. Нам цяжка наладзіць адпаведныя для ўзросту заняткі, калі ў святліцу прыходзіць паўсотні школьнікаў. Добра было б падумаць і пра дадатковую залу, каб раздзяліць дыдактычныя і тэлевізійныя гульні.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



*Нінка Ваўранюк з Бельска-Падляшскага.* Фота Ганны Кандрацюк

# Падарунак вострава

Далёка-далёка, над сінім морам жыла мнагадзетная сям'я рыбака. Бацька, стары Антось, кожны дзень выплываў на мора лавіць рыбу. Ён клапаціўся аб дзетках і жонцы, а таксама думаў, каб за прададзеную рыбу хапіла на адзенне і боты дзецям. Іншыя багатыя рыбакі смяяліся са старога Антося, бо быў ён няўдачнікам, няраз плаваў да белага ранку і нічога не злавіў.

Аднойчы, перад усходам сонца, выплыў стары рыбак за рыбай. Калі быў ён далёка ад берага, закінуў сетку ў мора. Чакаў ён тры дні і начы. Затым стаў гаварыць сам да сябе:

— Дарагое мора, дазволь мне налавіць рыбы. Мая сям'я ўжо тры дні не ела.

Але мора нічога не адказала. Падняўся вецер, надышла навальніца з маланкамі. Няшчасны Антось разбіў сваю лодку аб бераг невядомага яму вострава. З усёй сілы змагаўся са стыхіяй, каб не ўтапіцца. Яму пашчасціла. Навальніца закінула яго на бязлюдны востраў. Стары рыбак крыху баяўся звяроў, таму хутка пачаў шукаць бяспечнага месца. Залез ён на дрэва і заснуў там цвёрдым сном.

Раніцай разбудзілі яго птушыныя спевы. Старому Антосю вельмі хацелася есці. На шчасце на дрэве раслі бананы. Пасля снедання рыбак пачаў думаць пра сваю сям'ю. Вельмі ж хацелася яму дахаты.

На беразе знайшоў ён сякеру. Зразу рашыў зрубаць бамбукавае дрэва і зрабіць новую лодку. Але калі замахнуўся, дрэва загаварыла чалавечым голасам:

— Не рубай мяне.

— Хто гэта сказаў?

— Я, дрэва.

— Дык мне трэба зрабіць новую лодку.

— Я магу споўніць тваё жаданне. Ідзі на востраў, адшукай пячору, там будзе лодка і сюрпрыз тваёй сям'і.

І пайшоў стары рыбак у тую пячору, а там і золата, і цэлая лодка рыбы.

— Цяпер я зажыву, — падумаў стары. Сеў на лодку і лёгка паплыў у родную старонку.

На беразе сустрэлі яго рыбакі, але Антось нічога не сказаў. Усе скарбы занёс у сваю хату. З таго часу жыў ён доўга і шчасліва.

**Аня Пракапюк з Трывежы, VIII кл. ПШ у Новым Корніне**

# Першы дзень вясны

Хаця вясна пачалася 20 сакавіка без пяці хвілін дзевяць вечара, дык дзеці і моладзь святкавалі гэты дзень ужо ад раніцы. У школы прыйшлі яны апрануты незвычайна. Паказаліся, як прадстаўнікі розных прафесій: лекары, пекары, трубачысты і г.д.

Гайнаўскі дом культуры супольна з вучнямі і настаўнікам Падставовай школы н-р 6 у Гайнаўцы арганізавалі вясёлае вітанне вясны. Ужо ў дзесяць гадзін у актавай зале Дома культуры сабраліся вучні IV—VIII класаў гэтай школы. Правялі яны розныя міжкласныя спаборніцтвы. Былі вельмі цікавыя і займальныя гульні, танцы і спевы. Перад школьнай публікай выступіў маладзёжны калектыў танца ГДК. Старэйшыя вучні не закончылі святкаванняў у Доме культуры і ў рознакаляровых вопратках хадзілі яшчэ па горадзе.

**Аляксей Мароз**

# Міфы старой Беларусі

**24. Ляля**

Ляля — багіня вясны. Беларусы ўяўлялі яе як маладзенькую, прыгожую, стройную, высокую дзяўчыну. У гонар Лялі спраўляліся спецыяльныя абрады. Гэтая практыка належала маладым дзяўчатам. Свята ладзілі напярэдадні Юр'я.

Дзяўчаты выбіралі ў кампаніі самую прыгожую сяброўку. Яе адзявалі ў белыя латы палатна, якое перавязвалі зелянінай. Галаву прыгажуні аздаблялі вянком з веснавых кветак. Ляльо садзілі на драўляную лаву, на якой ставілі з аднаго боку масла, яйкі, сыр, малако, тварог, а з другога — хлеб. Ля ног багіні клалі вянкі з веснавых кветак. Затым браліся за рукі і пачыналі абрадавыя танцы і спевы ў гонар Лялі.

У сваю чаргу багіня раздавала дзяўчатам сыр, яйкі, масла, малако. А пасля брала ў рукі ахвяраваныя ёй вянкі і кідала іх на галовы сяброўак. Гэтыя магічныя практыкі мелі даць красу і прыгажосць дзяўчатам. Яны верылі, што Ляля засцеражэ іх ад выпадковай страты дзявоцтва.

# Шляхам забытых гасцінцаў

Новы краязнаўча-культурны часопіс „Бельскі гостінэць" цікавы не толькі зместам. У першым нумары знойдзеце некалькі матэрыялаў, прысвечаных гісторыі Відава. Гэтая старая вёска, распаложаная па-суседску з Бельскам, вядомая ўжо ў XV ст. Жыхары сяла мелі мяшчанскія правы. Здаўна вылучаліся тым, што любілі Царкву і навуку.

Краязнаўчае падарожжа ў гэтае сяло адкрывае артыкул Дарафея Фіёніка „Легенды пра Відава". Легенда запісана на арыгінальнай мове мясцовасці — падляшскім дыялекце. Юстына Стэц і Марта Федарук пішуць пра эпідэмію халеры ў 1855 годзе. Аўтаркі пакарысталіся метрыкальнай кнігай Міхайлаўскай царквы ў Бельску. Крыніцай натхнення сталіся архіўныя запісы таксама для Міхася Сцепанюка і Давіда Рошчанкі.

У тэксце „Справа Анастасіі Казлоўскай" апісваецца здарэнне з канца XVIII ст. — канфлікт Анастасіі Казлоўскай, уладальніцы маёнтка Любамаеравізна, і жыхароў Відава.

„Аднаго разу, — чытаем, — браты Казлоўскія падпіўшы, сабралі некалькі мужчын з Бельска і на конях паехалі ў Відава, каб пакараць непакорных сялян".

Што здарылася далей і якія былі вынікі паездкі, даведваемся з далейшай часткі артыкула.



*Рэдакцыйны калектыў „Бельскага гостінця": (злева) Міхась Сцепанюк, Дарафей Фіёнік, Валянціна Бабулевіч.*

На ўвагу заслугоўваюць успаміны Міхала Фірсовіча з урочышча „Горы", што ля Відава. Дзедка расказвае, між іншым, пра дубы ва ўрочышчы „Грабіна".

„Тыя дубы такія самыя былі як я малы быў, цяпер я стары, а дубы не памяняліся. Тым дубам з тысячу гадоў можа быць", — чытаем.

Побач матэрыялаў прысвечаных Відаву знойдзем успаміны Трафіма Андраюка з Плёсак пра бежанства, этнаграфічныя запісы са Студзівод, займальныя нарысы Міхася Сцепанюка пра святое месца ў Белавежскай пушчы „Крынычка" (між іншым пра лірнікаў: „Спявае як дзед на Крыначцы"). У часопісе адзначаныя культурныя падзеі ў Бельску. Міхась Сцепанюк піша пра музыканта Яна Тарасевіча з Саколкі. Штуршком для ўзнікнення артыкула стала выступленне саліста Беларускай дзяржаўнай оперы Віктара Скарабагатава ў БДК. Знойдзем таксама старанную (і цікава напісаную) інфармацыю Давіда Рошчанкі пра апошнія падзеі ў бельскай ратушы. На ўвагу чытача заслугоўвае ліст краязнаўчага гуртка ў ПШ н-р 3 да бурмістра горада Бельск-Падляшскі.

„Zwracamy się z prośbą o odnowienie herbów, jak również umieszczenie na każdym krańcu Bielska Podlaskiego herbów miast z nami sąsiadujących: Kleszczele, Białowieża, Narew, Białystok, Mielnik, Siemiatycze i Suraż", — пішуць бельскія краязнаўцы.

„Бельскі гостінэць" выдаецца ў рамках культурна-адукацыйнай праграмы „Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча". Рэдакцыйны калектыў добра вядомы чытачам „Зоркі": Дарафей Фіёнік (галоўны рэдактар), Ірэна Кулік, Міхась Сцепанюк, Давід Рошчанка, Жанэта Роля, Валянціна Бабулевіч (сакратар рэдакцыі) і Марка Хмур (тэхнічны рэдактар). Большасць артыкулаў напісаны на беларускай літаратурнай мове. Рэдакцыя заахвочвае карыстацца таксама падляшскім дыялектам — старабеларускай моваі, на якой яшчэ і сёння гавораць многія жыхары Падляшша.

„На гэтай мове, — чытаем у Бельскім гостінці, — пісаліся дзяржаўныя акты Вялікага княства Літоўскага ў XV—XVI ст.ст., на ёй пісаліся літаратурныя творы і пераклады еўрапейскай літаратуры".

Рэдакцыя часопіса зацікаўлена супрацоўніцтвам з моладдзю і дзецьмі. Разам пастараемся, — запэўніваюць аўтары, — пайсці шляхам забытых гасцінцаў (дарог). Тут сустрэнеце добрых людзей, пачуеце цікавыя расказы і старыя песні, пабачыце прыгожыя цэрквы, старажытныя курганы і гарадзішчы, чыстую прыроду.

Прапановы і матэрыялы можна дасылаць (на беларускай і польскай мовах) па адрасе: Szkoła Podstawowa nr 3, „Bielski Hostineć", ul. Poniatowskiego 10, 17-100 Bielsk Podlaski. Па гэтым адрасе вы можаце таксама падпісацца на часопіс.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

# Польска-беларуская крыжаванка № 14

| | | | |
|---|---|---|---|
| bóg ognia | ▼ | Socha | ▼ |
| Żyła | | Przesmyk ▼ | |
| ▶ | | | |
| Strach ▶ | | | |
| Witka | | | |
| ▶ | | | |

*Крыжаванка Касі ЛЕАНЮК*

1. прыкмета
2. не паэзія
3. у зборніку Віктара Шведа
4. летняя птушка
5. альбомная або запісная
6. гурт птушак
7. не адно ў парку
8. дом, катэдж
9. польскія горы
10. частка твару
11. імя аўтара паэмы „Магіла Льва"
12. шчодры ў вершы М. Лукшы з 5 н-ра „Зоркі" за 1997 г.
13. Злучаныя... Амерыкі




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванкі н-р 9 і 10:**

Сакавік, гара, воз, душ, Засада. Рагоз, каза, шар, вада, Лі, каша.

Крыжаванка Касі Леанюк: лозунг „Мяцеліца".

Узнагароды, кніжку М. Гайдука „Белавежскія быліцы і небыліцы" выйгралі: **Лукаш Капцеўскі** з Кленік, **Губерт Гайдучэня** з Гарадка, **Ева Загон** з Бельска-Падляшскага і **Сільвія Борыс** з Гарадка. Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

# Міхась Чарот

Міхась Чарот нарадзіўся 7 лістапада 1896 года ў пасёлку Рудзенск, што ў Менскай губерні. Чарот — гэта літаратурны псеўданім. У сапраўднасці называўся ён Міхась Кудзелька. У 1917 годзе закончыў настаўніцкую семінарыю ў Маладзечне. Не паспеў пачаць працаваць настаўнікам, калі быў мабілізаваны ў армію. Пасля бальшавіцкай рэвалюцыі вярнуўся ў Беларусь. Падчас польскай акупацыі Міншчыны ў 1919-1920 гадах удзельнічаў у партызанскім вызвольным руху. У дваццатых гадах быў адным з ініцыятараў працэсу беларусізацыі Савецкай Беларусі. Працаваў у рэдакцыі газеты „Савецкая Беларусь", а ў 1925-1929 гадах быў яе галоўным рэдактарам. У 1923 годзе стварыў патрыятычнае беларускае літаратурнае аб'яднанне „Маладняк", якога сябры сталі аўтарамі найбольш выдатных твораў беларускай літаратуры. У 1929 годзе бальшавікі пачалі змаганне з беларускай культурай і яе стваральнікамі. Чарот разам з іншымі беларускімі інтэлектуаламі быў абвінавачаны ва ўдзельніцтве ў нацыянальным дэмакратычным руху. 10 кастрычніка 1937 года быў расстраляны бальшавікамі. Загінулі тады амаль усе стваральнікі беларускай культуры.

Міхась Чарот быў аўтарам паэтычных зборнікаў „Завіруха" і „Босыя на вогнішчы", паэмаў — „Карчма", „Марына", „Беларусь лапцюжная", „Чырванакрылы вяшчун", „Паэма", „Сонечны паход", зборніка апавяданняў „Веснаход", п'есаў — „Мікітаў лапаць", „Дажынкі", „Сон на балоце", „Пастушкі. Данілка і Алеська", музычнай драмы — „На Купалле". Смерць Чарота і двухсот іншых беларускіх літаратараў у 1937-1939 гадах паказвае, які пад чужым панаваннем лёс нацыі і культуры.

## *Мілін сон*

Міла ў ложак палезла,
сон лавіць незвычайны.
Апынулася Міла
сярод бананаў і пальмаў.
Наламала галінак
з пальмы
і мандарыны.
Назбірала какосаў,
фігаў і апельсінаў,
размаўляла
з малпамі,
бегемотам, паўлінам,
і сланом,
і какаду,
эму ды кракадзілам
і вярнулася ў хату.

З ложка вылезла Міла,
ды ўсё зараз забыла.
Ранак цёплы і росны,
ды наўкол шумяць сосны,
і тапалі і клёны
даюць цень свой знаёмы.
А на коўдры зялёнай
разам з Мілай спіць слон.
Ды адкуль узяў ён,
гэты гумавы слон
той какос, абрыкос
і не выцер свой нос?!
Значыць, трапіў і слон
у такі мілы сон!

**Міра Лукша**

Талон „Зоркі" № 14
05.04.1998

# Пробныя экзамены

**Сваёй Бацькаўшчынай гайнаўскія ліцэісты лічаць вёскі бабуляў і дзядуляў, месцы, дзе выхоўваліся і раслі, куды змогуць заўсёды вярнуцца, выехаўшы з бесперспектыўнай Гайнаўшчыны.**

Ад 6 да 10 сакавіка 1998 г. у II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы адбываліся пробныя экзамены на атэстат сталасці. У пятніцу (6.03) вучні пісалі працы па польскай мове. Як заўсёды з ліку чатырох тэмаў трэба было выбраць адну і напісаць па ёй сачыненне. У панядзелак (9.03) матурысты пісалі працы па дадатковым прадмеце. Да выбару мелі матэматыку, гісторыю, біялогію і замежную мову.

У аўторак (10.03) ліцэісты двух класаў пісалі працы па беларускай мове (экзамены не былі абавязковымі). Да выбару мелі чатыры тэмы. Вучні маглі выказацца наконт свайго любімага сучаснага беларускага твора. Менавіта праца на гэту тэму была ацэнена найвышэй. За разважанні наконт „Трывожнага шчасця" Івана Шамякіна Кася Андраюк атрымала шасцёрку. Матурыстка захаплялася чыстым каханнем, яго своеасаблівасцю і далікатнасцю. Выявіла свае думкі наконт людскіх пачуццяў і трагізму, які можа сустрэць кожнага чалавека. Некаторыя вучні пісалі пра найлепш ім вядомыя творы: „Людзі на балоце" Івана Мележа, „На ростанях" Якуба Коласа. Ніхто не рашыўся пісаць пра літаратурную плынь у пасляваеннай Польшчы, а толькі некалькі прыхільнікаў мела тэма пра жанчыну і каханне. У гэтым выпадку свае разважанні ліцэісты найчасцей абапіралі на вершы Максіма Багдановіча, у якіх звярталі ўвагу на ідэальнае каханне, каханне ў марах, снах і каханне блізкае смерці. Ядвісю з трылогіі Якуба Коласа „На ростанях" і Ганну з рамана Івана Мележа „Людзі на балоце" вучні параўноўвалі з гераінямі творчасці Максіма Танка. Заўважалі вялікую розніцу паміж ідэалам жанчыны і кахання, а сённяшняй рэчаіснасцю.

Найбольш папулярнай стала тэма пра Бацькаўшчыну, яе мінулае і сучаснае. Матурысты пісалі пра вёскі і мясцовасці, дзе жывуць іх дзядулі і бабулі, пра тыя месцы, дзе выхоўваліся. Апісвалі калядныя і велікодныя абрады, якія захаваліся ў іх сем'ях. Найбольш успрымальнымі былі для іх святкаванні на „Басовішчы" і „Купаллі".

Сваёй Бацькаўшчынай лічаць месцы, дзе нарадзіліся, узраслі, куды будуць магчы вяртацца. Хаця вельмі захапляюцца Белавежскай пушчай і прыродай вакол яе, Гайнаўка, як горад, ім не падабаецца. Маладым зрокам заўважаюць усе адмоўныя бакі працы і адпачынку ў Гайнаўцы. Паведамляюць пра яго брутальнасць і няздобразычлівасць. Агрэсія самой моладзі і бесперспектыўнасць у сувязі з працай спрычыняюцца да таго, што ліцэісты не бачаць сваёй будучыні ў Гайнаўцы, ды часта і на Беласточчыне.

З Бацькаўшчынай матурысты не атаясамліваюць таксама і постсавецкую Беларусь, а для тых, якія лічаць сябе беларусамі, беларуская літаратура, культура і гісторыя, гэта тое роднае, што можа быць з-за мяжы.

Хутка ўжо будуць сапраўдныя экзамены на атэстат сталасці, але кожнага чакаюць яшчэ жыццёвыя выпрабаванні.

**Аляксей Мароз**

# Новая паэтычная група

6 сакавіка г.г. у Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы адбылася сустрэча аматараў літаратурнай творчасці, ініцыятарам якой быў мясцовы паэт Эдвард Ліпінскі. Дырэктар бібліятэкі Галіна Вайсковіч на пачатку спаткання паабяцала дапамагаць у ладжанні чарговых сустрэч і прапанавала, каб адбываліся яны ў бібліятэчнай зале.

Сустрэча згуртавала людзей, якія займаюцца літаратурнай творчасцю, а яе мэтай было ўзаемапазнанне і заснаванне клуба або паэтычнай групы. Эдвард Ліпінскі прыгадаў, што ў Гайнаўцы працуе ўжо літаб'яднанне „Гайнаўка", якое ў 60-х гадах заснаваў Ян Залеўскі, што працавалі літгрупы пры Доме культуры „Ляснік" і Доме настаўніка. Заснаванне новай групы адкрые магчымасць хадайнічаць аб грошы для выдавання найлепшых твораў. Сустрэча прыцягнула ўвагу як сеніёраў — Уладзіславу Алейнічак, так і ліцэістак-першакласніц — Анну Кот і Еву Зін. У літаратурным спатканні ўдзельнічалі яшчэ Тамаш Саевіч, Янка Целушэцкі, Міхал Юшчук, Галіна Пустэльнік, Ян Залеўскі і ніжэйпадпісаны, а таксама журналісты „Гайнаўскай газеты" — Тадэуш Тапольскі і „Вспулчэснай газеты" — Раман Алексяюк.

Сабраныя вырашылі, што аматары прыгожага пісьменства будуць сустракацца ў кожную першую пятніцу месяца. Чарговая сустрэча адбудзецца 3 красавіка г.г. а 18 гадз. у Гарадской публічнай бібліятэцы. На сустрэчах можна прэзентаваць творы на беларускай мове. А можа нехта з чытачоў прыдумае назву новастворанай групе? З паэтычнай групай можна кантактавацца па адрасе: Miejska Biblioteka Publiczna w Hajnówce, ul. 3 Maja 45, tel. 682 28 07.

**Славамір Кулік**

# Заўвагі наконт помніка

Нядаўна ў радыёперадачы „Пад знакам Пагоні" пачуў я інфармацыю пра планы пабудовы помніка праваслаўным беларусам Беласточчыны, ініцыятарам якога з'яўляецца Канстанцін Масальскі. Сапраўды, гэта вельмі патрыятычная і наскрозь душэўная задума. На маю думку, ніводзін беларус на Беласточчыне і ва ўсёй краіне не павінен адмовіцца ад падтрымкі для гэтай ідэі. Аднак, выслухаўшы выказванні спадара Масальскага, з'явіліся ў мяне дзве заўвагі.

Па-першае, калі помнік мае ўвекавечваць беларусаў Беласточчыны, загінуўшых у XX стагоддзі, тады трэба памятаць аб беларусах іншых канфесій. Апрача праваслаўных беларусаў (іх большасць), гінулі беларусы каталікі, баптысты, евангелікі, уніяты, а нават мусульмане. Забываючы пра гэта, мы толькі садзейнічаем замацаванню стэрэатыпу католік — паляк, праваслаўны — „кацап"-беларус. Такі стэрэатып пакутуе не толькі ў нас, але і ў Беларусі. Калі ў сапраўднасці будзем будаваць помнік загінуўшым у XX стагоддзі беларусам, дык няхай гэты помнік будзе ад беларусаў і для беларусаў — прымірыцельны.

Па-другое, непакоіць мяне планаванае месца ўзвядзення помніка. Прапанаваны сквер побач Свята-Мікалаеўскага сабора мяжуе з гарадской прыбіральняй. На маю думку, гэта быў бы здзек над ахвярамі трагічных падзей XX стагоддзя. Спярша трэба, каб гарадскія ўлады ліквідавалі прыбіральню, а потым ставіць помнік. А можа падабраць іншае месца для помніка? Напрыклад, у суседстве помніка ксяндзу Папялушку ці на пляцы каля Свята-Духавай царквы на Антонюку.

**Ю. П.**

*(імя і прозвішча да ведама рэдакцыі)*

# Вечар пры свечках

## *або* „Сляза застанецца слязою..."



*Алесь Барскі з паклонніцай.*

Алесь Барскі (Аляксандр Баршчэўскі), пачынальнік беларускай лірычнай паэзіі ў Польшчы, прызнаецца сёння, што яго паэтычны псеўданім узнік ад страху і няўпэўненасці. Калі ён быў у пяцьдзесят восьмым годзе на стажы ў Мінску, то выслаў у „Ніву" свой першы верш. Баючыся падпісвацца сваім прозвішчам, бо саромеўся і не ведаў, ці верш добры. Таму ён сваё прозвішча скараціў і схаваўся за псеўданімам. Калі ж даведаўся з „Нівы", што верш будзе надрукаваны, ужо не было калі нешта змяняць. I так засталося.

Колькі вершаў было напісана за гэтыя гады, колькі слоў было сказана, ідучых з глыбіні душы, у паэтычных зборніках „Белавежскія матывы", „Жнівень слоў", „Мой бераг", „Блізкасць далёкага"... Д-р Тэрэса Занеўская, інспіратар і арганізатар сустрэчы з паэтам, што адбылася на Факультэце педагогікі і псіхалогіі Універсітэта ў Беластоку 18 сакавіка 1998 года, не шкадуе паэту слоў прызнання.

Алесь Барскі гэта чалавек-установа, падкрэслівае яна: кіраўнік Кафедры беларускай філалогіі, старшыня Польскага таварыства беларусістаў, паэт, фальклярыст, перакладчык, грамадска-палітычны дзеяч — шматгадовы старшыня Беларускага таварыства, а таксама літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Першы беларускі паэт, які быў прыняты ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў. У будучым годзе спаўняецца сорак гадоў ад апублікавання першага верша Алеся Барскага, але спадарыня Занеўская хацела б святкаваць яго ўжо сёння.

Не першая ўжо гэта паэтычная сустрэча ў Беластоцкім універсітэце. Студэнты маюць вопыт у падрыхтоўцы такіх імпрэз. Ёсць тут такая моцная група, а кіруе імі і дэкламуе вершы ды спявае асістэнтка Іаанна Казак. Студэнты самі падабралі вершы для выступлення („Вавёрка", „І колькі загонаў...", „Ліст да маці", „Ёсць такая зямля", „За тысячу год" і іншыя — усе пераклаў на польскую мову Віктар Швед), самі скампанавалі музыку і самі выконваюць гэтыя творы. Асабліва шмат кампануе Марк Хомка, а найцудоўней спявае Іаанна Казак. Марыюш Пятровіч спявае на вечары па-беларуску „Вербы", а Марк Яраш — дзве народныя песні на падляшскім дыялекце ў падарунку паэту.

Алесь Барскі гаварыў на заканчэнне. Прызнаў, што паэзія гэта яго рэлігія, але перш за ўсё ён — селянін, пра што не сказала сп. Занеўская. Быць беларускім паэтам — балюча. Чаму Беларусь не хоча незалежнасці?! Чаму гэты народ такі, а не іншы? Паэт ведае: прычынай усяму адвечная няволя, — і выказвае прэтэнзіі не толькі да саміх беларусаў, але і да іхніх суседзяў.

Найбольш балюча, сказаў паэт, што калі на Беларусі я гаварыў па-беларуску, мяне абражалі. Я нават раней гэта запісваў. У дзевяностым годзе — перасталі, а пасля рэферэндуму зноў пачалося тое ж самае. У апошні час я пачуў: „Хватит щеголять на этом языке. Дождётесь Жириновского!" Калі паляк едзе ў Кракаў, то можа напіцца там крынічнай вады. Калі беларус едзе на Беларусь і хоча напіцца з крыніцы, аказваецца, што яна сухая.

Цяжка быць наогул паэтам. Калісь паехалі мы на вёску, успамінае Алесь Барскі. У святліцы хлопцы глядзяць тэлевізар. Вы чытайце, але тэлевізара не выключайце, сказалі яны. А можа паэту павінна быць нялёгка...

На заканчэнне паэт чытаў „Прамову Мялешкі" ў яго перакладзе на польскую мову, як жа актуальную ў нашы дні.

Моладзь увесь час жыва і цёпла рэагавала на ўсё, што дзеялася ў зале 202 на Свярковай. Калі вас не загналі сюды сілком, то я захапляюся вамі, моладзь, сказаў паэт.

А я маю да іх і крыху прэтэнзій. Даражэнькія, не вырывайце картак з аўтарскага зборніка, нават тады, калі пад рукой няма іншай паперкі, каб заняць месца для знатных гасцей (няхай сабе нават консулаў). Каб бачылі вы, як сумна выглядала распатрошаная кніжыца „Блізкасць далёкага", што валялася па-сірочаму на стале, патанчэўшая, а „Трынаццатае", „Пятнаццатае" і іншыя вершы з яе выконвалі ролю ўсяго прадмета, які апынуўся пад рукою. Не рвіце кніжак, у якіх засталася часцінка душы паэта!

Даўно ўжо напісаў Алесь Барскі, а Марк Хомка сёння спявае: „Сляза застанецца слязою..."

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

*(Эсэ Тэрэсы Занеўскай пра паэзію Алеся Барскага чытайце ў наступным нумары).*

# Мітрапаліт Васілій і Пружана

Калі тадышні святар Уладзімір Дарашкевіч (пазнейшы мітрапаліт Васілій) выйшаў з турмы, збудаваў царкву ў Гарадку. Унутранае убранне зрабілі яму вядомыя прафесары Акадэміі выяўленчага мастацтва ў Кракаве Георгій Навасельскі ды Адам Сталёны-Дабжанскі. Канчаючы сваю працу, яны запрасілі мяне, каб я пабачыў як малююць сцэны ды столь. Вітражы Адама Сталёны-Дабжанскага ўжо ігралі рознымі колерамі, а алтарная частка, размаляваная Георгіем Навасельскім, магла б красавацца і ў Маскве. Пасля ўся Польшча пабачыла прыгажосць храма на дакументальным фільме, які дэманстраваўся перад фабулярнай кінакарцінай „Сёмая пячаць" Бергмана. Быў і мой малы ўзнос у гэтую справу, пакольні Адам Дабжанскі на заходняй сцяне маляваў розныя формы крыжоў на падставе маіх матэрыялаў, па маім падказе ў ясных кругах у купале ён жа напісаў слова „святы" больш як на тузіне моў. Які ж кантраст пасля ўсяго гэтага здзівіў мяне, калі я ўвайшоў у парафіяльны дом. Нармальна ў „красным кутку" вешаюць іконы Ісуса, Багародзіцы, святога Міколы, а тут у рамцы вісела толькі каляровая ікона (велічынёю ў 2 паштоўкі) плачучай Марыі на Галгофе з сабора Аляксандра Неўскага ў Пружанах. Ну, падумаў я, Пружаны адсюль не больш як сто кіламетраў, а іншых ікон не павесілі, і гэта быў сімвал асабістай пакуты.

Для мяне гэта была важна, бо калі 9.04.1934 г. з намаляванай слязы паплылі сапраўдныя (ручайком на адзін метр), улажыў я ў іх свой палец і зрабіў знак крыжа на сваім чале. Варшаўская мітраполія прызнала цуд і выдала (алеадрукам) іконку, на жаль, у чорна-белых толькі колерах (апублікаваў яе нядаўна „Przegląd Prawosławny" з кароткім апісаннем гэтага здарэння).

Будучы тады гімназістам, спытаў я сам сябе: што ж гэта прадказвае? І адказаў сам сабе: бяду. Так яно і сталася. У тым жа 1934 годзе ўкраінскія нацыяналісты забілі польскага міністра і менавіта ў Пружанскім павеце над ракой Ясельдай быў створаны адзіны ў краіне канцлагер у Картуз-Бярозе, у якім нат 2 тыдні сядзеў будучы прэм'ер-міністр польскага ўраду ў Лондане Станіслаў Цат-Мацкевіч (1896—1966). Цяпер гэты гарадок стаў павятовым і называецца Бяроза.

А далей была крывавая II сусветная вайна і на лініі толькі Брэст—Сталінград ды назад загінула мільёны салдатаў. Вялікая частка Пружаншчыны памерла. Усе яўрэі былі закатаваны ў лагерах смерці. Цэнтр Пружан быў спалены і так сама вялічэзны Прачысценскі храм (цяпер на яго месцы стаіць універмаг). У час вайны айцец Уладзімір Дарашкевіч служыў і ў вёсцы Лыскаў больш-менш 40 кіламетраў на паўночны ўсход ад Пружан, цяпер прылучанай да гэтага раёна. Значыцца, быў у саборы ўжо пасля цуду ды ведаў яго гісторыю.

Падляшскія паломнікі павінны кожны год 9 красавіка наведваць Пружаны. Ад Белавежы гэта 45 кіламетраў шашой. Вось адрас дэкана і настаяцеля сабора: Прот. Іосіф Балюк, 225140 Пружаны, ул. Кірава 28, Брэсцкая вобласць, Беларусь.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Затрымаць легенду



*На выстаўцы мастацкіх прац, прысланых на конкурс, адбылося ўручэнне ўзнагарод.*

Рышард Варабей, працаўнік культуры з 35-гадовым стажам, — неспакойная душа. Абражаецца, калі людзі гавораць на яго „пісацель", але заўсёды нешта прыдумае, каб расславіць сваё Міхалова.

Вось тры гады таму надумаўся ён зрабіць Агляд безыменнай творчасці. Ну, бо як жа ж так! Вусная народная творчасць гіне. Мала хто сёння памятае легенды, якія перадаваліся з вуснаў у вусны. Людзі, што ведалі розныя паданні і апавядалі іх далей, — паміраюць. Моладзь, дзеці сядзяць ахвотней перад тэлевізарам, дзе ёсць нешта цікавае, не хочуць слухаць бабулю.

А Рышард Варабей хоча затрымаць час, знайсці крыніцы паданняў, ажывіць легенду, запісаць яе, зарэгістраваць. Ён і „Ніву" выпісвае больш дзеля таго, каб ведаць людзей. Ну, бо вось паедзе ён на вёску, легенды шукаць, а да каго? Нябось не будзе ён чакаць, пакуль нейкі гаспадар на яго сабак нацкуе. У „Ніве" ўсё прачытае: дзе, у якой вёсцы цікавы чалавек жыве, а мо і карэспандэнт „Нівы" знойдзецца. І тады ўжо, едучы ў ягоную вёску, мае перад сабой зялёнае святло. А ці ж такі чалавек, што піша ў „Ніву", яму адмовіць?! Што вы! Калі сам ніякіх легенд не ведае, дык да іншага завядзе, да старэйшага, да таго, што яшчэ памятае, або да ягонай бабы.

І так сёлета дачакаліся мы III Агляду безыменнай творчасці, а рэха гэтага мерапрыемства пайшло далёка, бо некаторыя пісалі ў Міхалова аж з Кракаўскага ваяводства.

Сам Рышард Варабей любіць ездзіць па Беласточчыне. Перш за ўсё, вядома, разведвае Міхалоўшчыну, але і іншыя мясціны таксама. Вось сёлета, напрыклад, даў яшчэ легенды, якія знайшоў у Гацьках, што на Бельшчыне, і ў Нараўчанскай гміне, і ў Заблудаўскай, і ў Мельніку, а наваті ў Элцкай гміне таксама. А няраз пачуе ён такое, што і слінка пацячэ.

14 сакавіка 1998 года ў Гмінным цэнтры культуры ў Міхалове адбыўся фінал Агляду безыменнай творчасці Падляшша, III Сустрэча з легендай. Арганізатарамі былі Гмінны цэнтр культуры (дзе ўжо шмат гадоў працуе Рышард Варабей) ды Таварыства сяброў Міхалоўскай зямлі. Ну, і што б тут зрабіў спадар Рышард без доктара Лешака Носа, старшыні гэтага таварыства, чалавека, адданага поўнасцю справам Міхалоўскай зямлі, а да таго ж таксама збіральніка легенд, балазе ён — настаўнік на пенсіі.

Не магу скрываць, III Сустрэча з легендай была крыху больш скромная, чым ранейшыя. На ўсё патрэбны грошы. А тут Міністэрства культуры дало менш чым палавіну абяцаных грошай, дакінуў існуючы яшчэ тады Аддзел культуры Ваяводскай управы, крыху — Бюро абслугоўвання „SiS", а Гмінны цэнтр культуры ў Міхалове змог прызначыць на імпрэзу зусім нязначную суму.

У выніку не змаглі запрасіць у Міхалова тэатр „Вершалін" з легендамі. Праўда, выступіла капэла з Сямятыч і калектыў „Цаглінкі" з Ляўкова, а сярод збіральнікаў легенд усяго адна наша „Аўрорка" (Ірэна Лукша) адважылася выступіць, як і ў мінулым годзе, на сцэне, перад мікрафонам. Баяла нам тры легенды, пачутыя ад бабулі Маланні Бірыцкай: „Чорная кніга", „Чартоўская баба", „Як лясну, як свісну". За тое ж і атрымала яна спецыяльную ўзнагароду.

На конкурс у Міхалова было прыслана 40 легенд ад 27 збіральнікаў. Ірэна Лукша не прыслала, баяла адразу. Першая ўзнагарода прызнана Лешаку Носу, тры другія — Тамашу Краўчуку з Кнышына, Рышарду Варабею і Янку Целушэцкаму, а трэцяя — Мечыславу Чайкоўскаму з Беластока. Вылучэнне — Ежы Лукашу Зарэмбе з Ломжы.

Былі ўручаны таксама ўзнагароды разбярам і мастакам, а таксама вышывальшчыкам, якія прадставілі свае працы, створаныя на падставе легенд, народных паданняў. Марыян Гайдучэня, культурна-асветны інструктар з Дома грамадскай дапамогі ў Ялоўцы, прывёз аж чатырох аўтараў: Рыгора Палецкага — II узнагарода за малюнак, Станіслава і Яўгенію Аўрукоў (вышыўка), Софію Ціжынскую (вышыўка).

У гэты снежны сакавіцкі дзень Міхалова абагрэла старэчаў сваім цяплом.

**Ада Чачуга**

*Фота Я. Алексеюка*

# Сцежкі-дарожкі

Што адрознівае людзей ад, скажам, робатаў? Людзей нашых, а робатаў усялякіх, тых штучных розумаў, якіх запраграмаваць можна і патрабаваць ад іх адпаведных паводзін? Пакуль не сапсуюцца ці не нападзе на іх нейкі вірус, які разваліць усю праграму? А тым яны адрозніваюцца, што іх, чалавекаў нашых, зусім не запраграмуеш як варта было б. Як ні стараўся Пан Бог... А, можа, Ён так і спецыяльна зрабіў, каб чалавек меў той „люз" на сваю вольную „творчасць", хай бы і рабіў бязглуздзіцу, памыляўся на кожным кроку, паўтараў свае памылкі? Асабліва калі гэта славянін. Але, можа, гэта нейкі промах Створцы, маленькая памылка ў калькуляцыі, той маленькі жарт — „вірус", які на працягу тысячагоддзяў у некаторых патомкаў Адама і Евы (можа, больш Каіна і яго сёстраў, бо ж адпаведны Авель загінуў у юнацтве) учыніў істоты, якія свае хібы навучыліся лічыць гонарам і дасягненнем, эксперыментальнай „Божай іскрай"? А, можа, гэта і ёсць тое, што найбольш адрознівае чалавека ад усяго іншага? Тое штосьці, што Тварэц меў самае асабістае, чаму і сказаў, што стварае Адама на Сваё падабенства? Можа таму, дзякуючы непрадказальнасці сваіх рухаў на шахматнай дошцы жыцця, часам, здаецца, нязгодных з правіламі, з планам, з праграмай, чалавек выйграе? Выходзіць на новыя шляхі, часам добра патэпаўшы па бездарожжы або ступіўшы, свядома ці не, не на тую дарогу, што, здавалася б, правільная была?

Вось я пра тыя сцежкі-дарожкі... А найбольш пра планавікоў, якія хочуць, каб людзі хадзілі там кудою трэба. Усе, вядома, бачылі, бо ж самі ходзім, з якой упартасцю планавікі планавалі і плануюць тыя сцежкі па горадзе, па кварталах і раёнах. Запланаюць, разаб'юць, высыпаюць жвірам ці выльюць асфальтам, пасеюць мураўку, а народ і так вытапча газоны, бо ведае свае сцежкі. І замест пусціць спачатку народ па голым полі, каб выбраў свае шляхі, а пасля ўсё зрабіць паводле здаровага розуму, заворваюць ізноў тыя нелегальныя сцяжынкі, сеюць траву, садзяць калючую жывую агароджу, быццам калючы дрот, ставяць бар'еры, платы... Абы толькі чалавек не ступіў па-свойму! А мы і так пяройдзем, пералезем! Альбо вось пераходы, гляньце. Я вось жыву ў раёне Беласточак. І вось мне загарадзілі такі зручны пераход цераз вуліцу Радзымінскую! Паставілі слупкі, зацягнулі ланцугі. Маем пераходзіць тры крокі далей. Дзе ж такое церпіш?! Мы і так сваё зрабілі — вырвалі адзін ланцуг, і пераходзім вуліцу насуперак розуму, разважлівасці і бяспецы, перад самым носам аўтобуса!

Ну, але той раён Беласточак мушу пахваліць. Працуюць тут вельмі акуратныя, дакладныя прыбіральшчыцы, што не даруюць нават адной траўцы, што пасмее вылезці ў шчыліне паміж плітамі тратуара, ні адной паперынцы ці мінулагодняму лісточку. І планавікі цяпер паразумнелі: праз 15 гадоў па дарожках, вызначаных пешаходамі, пакладзены акуратненькія, роўныя шэраружовыя тратуары, часам нават не простыя, як стрэліць, а такія вось крышку хвалістыя, з фантазіяй, згодныя з натурай вандроўніка, які, хоць стаў гарадскім, уціснутым паміж клеткі блёкаў, то ногі яго носяць па-старому, і цяжка прадказаць, куды.

**Вандал Арлянскі**

# У тайзе выхаваная

**Нікога ўжо не здзіўляюць апусцелыя вёскі, адкуль у гарады паўцякалі маладыя людзі. Большае здзіўленне выклікаюць людзі, якія тужаць па сельскім жыцці і з Варшавы ўцякаюць у Орлю.**



— Нарадзілася я перад II сусветнай вайной у Гайнаўцы, на краю Белавежскай пушчы. У вайну жылі мы ў Белавежы, — успамінае **Данута ТУКАЛЬСКАЯ**, жыхарка Варшавы і Орлі. — Немцы загадалі солтысу саставіць спісак адукаваных сем'яў. У выніку наша сям'я з сямі чалавек апынулася ў этапным лагеры для палонных. Адгэтуль былі б мы перавезены ў канцлагер, але двое дзяцей, у тым ліку і я, захварэлі і на целе з'явіўся сып. Немцы панічна баяліся заразных хвароб і нас адаслалі ў суседнюю вёску на лячэнне. З гэтай вёскі мы ўцяклі — ехалі на фурманцы толькі ноччу, а ўдзень хаваліся. Такім чынам трапілі ў ваколіцу Брэста. Жылі мы па розных малых вёсках, памянялі прозвішча, а бацька прыкідваўся пастухом.

Пасля вайны сталі мы жыць у Брэсце. Не выязджаючы з краіны апынуліся мы за мяжою. Бацька, відаць, не спадабаўся савецкай уладзе, бо адправілі нас таварным вагонам у Сібір і пасялілі ў невялікай мясцовасці Юрга Лясная, у тайзе. Жылі мы ў бараку. Кожны дзень адбывалася праверка ссыльных, а ў дзесяць гадзін вечара трэба было тушыць святло і нельга было зачыняць дзвярэй знутры. Ноччу часта нехта ўваходзіў у барак і свяціў ліхтарыкам у вочы. Навокал вёскі прасціралася непраходная багна. Пітную ваду завозілі да нас у драўляных бочках. Пасля года ўдалося нам дабіцца перасялення ў Завадаўкоўск. Там жылі мы ў халодным таварным вагоне, у якім можна было тапіць металічную печку (г.зв. казу) толькі ўдзень. Хадзіла я там у сёмы клас. Праз нейкі час пераехалі мы ў Табольск над Іртышом і жылі там да 1958 года, адкуль у рамках рэпатрыяцыі вярнуліся ў Польшчу. Цэлы год бацька хадайнічаў перад уладамі, каб дастаць дазвол на выезд у Польшчу. Увесь час бацьку рабілі перашкоды, найчасцей бракавала нейкіх дакументаў, а ў канцы нават запрапанавалі яму стаць мэрам нейкага горада, каб толькі не выпусціць з Саюза.

Дарога ў Польшчу зноў прыявла нас у Брэст. Там на вуліцы сустрэла я свайго настаўніка беларускай мовы Арэста Антановіча. Ён сказаў, каб яму напісаць, калі б нам у Польшчы не пашанцавала. У школе я была добрай вучаніцай і настаўнік шкадаваў мяне, калі нас з Брэста саслалі ў Сібір.

Пасля вяртання ў Польшчу сям'я стала жыць у Гайнаўцы, а я паехала ў Варшаву вучыцца ва універсітэце. Там я адчула сваю „іншасць", пра што часта заўважалі мае калегі. Гэта мяне вельмі балела, паколькі ў Сібіры я ганарылася сваёй польскай нацыянальнасцю, а тут палічылі мяне чужой. Потым працавала я ў агульнаадукацыйных ліцэях у Варшаве.

* * *

Ужо ў дзяцінстве выявілася мая схільнасць да мастацтва, да малявання. Але на гэта не было часу. Перш за ўсё трэба было выконваць хатнія і школьныя абавязкі. Ужо ў Сібіры займалася я ў літаратурным гуртку пры рэдакцыі газеты „Тобольская правда" і ў драмгуртку пры Доме настаўніка, разам з савецкім акцёрам Жданавым.

У 1973—1977 гадах жыла я ў Вялікабрытаніі і працавала настаўнікам рускай мовы ў міжнародным каледжы ў Кардыфе (муж выкладаў там матэматыку). У гэтай школе працавалі і займаліся выкладчыкі і студэнты з сарака краін, а мы былі адзінымі настаўнікамі з сацыялістычнай краіны. І толькі там, у Валіі, я знайшла час на сваю мастацкую дзейнасць. Стварала я вышываныя карціны на льняным палатне, рабіла макрамы, малявала акрылевымі фарбамі, размалёўвала тканіны тэхнікай бацыку. Пасля вяртання сарганізавала я заняткі па макраме, якія наведваюць многія жанчыны розных прафесій. Першая мая выстаўка адбылася на судне „Волін", на якім вярталася я з Валіі ў Польшчу. Капітан судна ганарыўся тым, што на ягоным караблі ўпершыню была наладжана экспазіцыя для пасажыраў.

* * *

Жыву я ў Варшаве, але ўжо дванаццаць гадоў таму звязалася я з Орляй, у якой жыву з вясны да зімы. Раней наведвала я сваю хросную маці Марыю Контышаву, але калі ў 1985 годзе з'явілася нагода купіць дом па Кляшчэлеўскай вуліцы, стала я тут частым госцем. Зрабіла я рамонт і кожны год раблю нейкія ўдасканаленні. Людзі гавораць, што я гэты дом выратавала ад разбурэння. Хацелася б мне зрабіць у ім майстэрню, але для гэтага патрэбны немалыя грошы.

У саракатысячным Табольску марыла я жыць у вялікім горадзе, але ў Варшаве стала тужыць па ціхіх мясцінах, таму і ўцякаю са сталіцы ў Орлю. Сніцца мне па начах тайга, прастора, лясы...

Я і мае ўнукі адчуваем сябе ў Орлі шчаслівымі. Карысна ўплывае нас цішыня і спакой, чыстае паветра, праца на градках. Люблю прыроду і сама сябе назваю дзіцём натуры, паколькі нарадзілася я ў пушчы, а выхавалася ў тайзе. Для мяне нацыянальнасць — гэта не праблема. Важнейшым лічу тое, якім ёсць чалавек, а не тое, хто ён па нацыянальнасці. Я — каталічка, але з прыемнасцю наведваю арлянскую царкву. Тут у мяне многа сяброў і знаёмых. Сям'я ў мяне — інтэрнацыянальная і я гэтым ганаруся. Мая сясятра выйшла замуж за ўкраінца, старэйшы брат ажаніўся з беларускай, сярэдні — з расіянкай, а наймалодшы — з кашубкай, а я, якая не хацела выходзіць замуж у Табольску, бо рашыла мець за мужа паляка, ужо ў Варшаве выйшла за... татарына. Беларуская мова мне не чужая. Чытаю па-беларуску, спяваю беларскія песні, люблю беларускую паэзію.

І на заканчэнне размовы спадарыня Данута прадэкламавала мне два абшырныя фрагменты паэм „Зімою" і „Курган" Янкі Купалы, якія вывучыла яна на памяць яшчэ ў школе ў Брэсце.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

*Фота аўтара*

# „Навучыўся радавацца чужой радасці..."

## *Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка*

*(заканчэнне; пачатак у 46 н-ры за 1997 год)*

Дарагі Максіме! Шчыра Табе дзякую за Тваё харошае пісьмо ад 14.7.75 з Нарачы. Тваё добрае слова, Твая высокая ацэнка мае сціплае мастацкае працы мяне як заўсёды, вельмі радуе. Да свайго выступлення 13.7 у Багданчы дадаў яшчэ выступленне на міжнародным фестывалі: „Міжнароднае культурнае лета" ў Лугачовіцах. Выступленне адбылося 2.7. Яно было яшчэ большае і цяжэйшае, чым папярэдняе. Спяваў у сямі мовах 25 песень, пачынаючы шаснаццатым стагоддзем, дайшоў да нашых дзён і закончыў народнымі песнямі розных народаў (у арыгінале).

З прыложанае праграмы ўбачыш, што ёсць там вялікія кампазытары італьянскія, рускія, нямецкія, польскія, беларускія, чэшскія і славацкія. Народу было поўна (не хапіла месц — стаялі).

Да кожнае песні трэба было сказаць пару адпаведных слоў. Спяваў без перапынку паўтары гадзіны... Што гэта ўсё вытрымаў, цяпер сам дзіўлюся...

На гэтым канцэрце мы ўсе (і слухачы, і я) перажылі шчаслівыя хвіліны. Калі цяпер аб гэтым успамінаю, здаецца, што там быў нехта іншы, не я.

Вельмі мяне радуе, што Ты не ў бальніцы. Спадзяюся, што і Твая арытмія паміне, і ціск стане нармальным, чаго не магу сказаць пра сябе. Розніца ў 12 год у нашым узросце вялікая. Але, пакуль жыву, хачу даваць людзям радасць. А пісьмы, што атрымваю ад слухачоў, сведчаць аб тым, што гэту радасць ім даю.

Цяпер еду на пару дзён у Лучаны, да Л. Кастэцкага, скрыпача слаўнага Сметанавага квартэта. Жонка Кастэцкага беларуска. Любіць Твае вершы... Часамі разам спяваем розныя песні.

Канчаю, бо зараз па мяне прыедуць. Абдымаю і цалую Цябе і ўсю Тваю радню, якую люблю, як Цябе.

Будзь здароў, дарагі Максіме! Хай Табе добра жывецца і добра пішацца! Не забывай!

Твой
М. Забэйда.
Прага, 5.8.1975.

* * *

30.9.1975.

Дарагі Максіме!

Атрымаў і „Полымя" з Тваімі вершамі, і Тваё апошняе пісьмо. Шчыра дзякую. Вершы Твае, чым больш чытаю, тым больш падабаюцца. Многа думак, вобразаў і Твая, асаблівая музыка. Маёю мовою сталася песня — шкада, не магу Табе заспяваць. У думках раблю гэта часта, але, зразумела, Ты, як і іншыя мае суайчыннікі, мяне не чуеш. Мне пішуць, што „круцяць мяне" на прайгравальніку. Вось і Ты, дарагі дружа, калі знойдзеш вольную хвіліну, „пакруці мяне"... Яшчэ было б лепш, каб Мінскае радыё выкарыстала плітку для сваіх слухачоў, як гэта робяць у ЧССР, Нямеччыне, Польшчы і іншых краінах.

Пра свае здароўе стараюся, колькі магу, а другія пра нас турбуюцца толькі тады, калі нас патрабуюць, калі ад нас нешта маюць. Вось і я стараюся быць карысным грамадству. Пакуль магу — спяваю... — „Бо толькі тады я магу сустрэцца са сваёю сяброўкаю — песняй".

А калі не магу спяваць, іду ў Рыгровы сад і забаўляю малых дзяцей.І дзеці, і маткі бываюць вельмі задаволены, што раблю аптымістычны настрой. (Мяне нават называюць дзіцячым доктарам).

Можа, і добра зрабіў Ты, што „ўцёк" ад дактароў на Нарач. Улетку ляжаць у бальніцы цяжка. Напішы, як адчуваеш сябе цяпер? Як паводзіць сябе арытмія? Я ад яе ўжо не збаўлюся ніколі. Турбуе яна мяне і ўдзень, і ўночы. І ногі моцна баляць. І трачу зрок. Ды іншых хваробаў шмат... Але ўсё яшчэ вытрымаць можна.

Вельмі сумна, што цяжка захварэў М. Ц. Лынькоў. Ён столькі зрабіў для савецкае беларускае літаратуры! А, можа, і паправіцца яшчэ? Ён жа толькі на год старэйшы за мяне. Ад душы жадаю яму выздаравець!

Вельмі шкада Д. Д. Шастаковіча, які нядаўна адышоў. Вялікі кампазытар і добры чалавек. Спатыкаўся з ім на з'ездзе чэшскіх кампазытараў і заўсёды спяваю і яго песні.

У Празе быў Валодзя Караткевіч з жонкай і інж. Янка Шпак, якіх Ты, напэўна, ведаеш, перадавалі прывітанні з Радзімы. Вельмі хацеў бы дачакацца Твайго новага зборніка вершаў: „Дарога, закалыханая жытам". Як я люблю глядзець, „когда волнуется желтеющая нива..."

Прыемна было знайсці сярод надрукаваных у „Полымі" вершаў і тыя, што Ты мне прысылаў раней у пісьмах. Калі няма перашкод, прысвяці мне ў зборніку верш: „Чаму ж..." Гэта было б добра для нашае песні, для тых, хто па мне хоча пашыраць яе ў свеце. А наша песня варта гэтага.

Ну, бывай здароў, дарагі дружа. Шчырыя прывітанні ўсяму Твайму „калгасу" і супольным знаёмым. (Ужо баліць сэрца.)

Моцна абдымаю. Твой М. Забэйда.

Прыкладаю копію аднаго з пісем, якія атрымаў ад слухачоў канцэрта ў Лугачовіцах 21.7.1975.

**Публікацыя Міколы МІКУЛІЧА**

# Заслужаным пенсіянерам

Чаромхаўскі Саюз пенсіянераў і інвалідаў налічвае больш за сто дзевяноста членаў. Старшынёю арганізацыі з'яўляецца вядомы ў чыгуначным пасёлку дзеяч Юзэф Дубковіч.

Пенсіянеры актыўна ўдзельнічаюць у розных мясцовых мерапрыемствах ды і самі арганізуюць цікавыя спатканні — традыцыяй ужо стала навагодняя сустрэча. Праўленне Саюза не забывае пра жанчын і сваіх сеніёраў, якім споўнілася 90 гадоў. Юбілярам уручаюцца падарункі.

У канцы мінулага года на сесіі Гмінай рады заслужаным пенсіянерам былі ўручаны медалі. Залатыя адзнакі „Заслужаны Беласточчыне" атрымалі: Ларыса Навіцкая-Антанюк, Зофія Кердалевіч, Якім Панасюк, Антон Пашкоўскі, Хведар Гапанюк і Ян Кердалевіч. Сярэбраныя — Марыян Паскрубка, Ян Кердалевіч і Уладзіслаў Гансяроўскі.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Парнасік

## Паклоны

Нас зусім не прымушалі,
Каб на калені ўсе пасталі.
Паклоны часта іншым білі,
Усё чужое так хвалілі,
Апраналіся ў чужое,
Усё, што робяць за мяжою,
А сваё ўсё, быццам смецце.
Кідалі ў кутох, на вецер.
Нашым продкам мулка спаці
На пагосце — так у хаце
Нашай простай, роднай стала,
Што іх памяць ноч забрала.
Іх надзеі ўмерлі з імі,
Іхня праца пайшла з дымам.

**Аўрора**

## Сабакаводу

Калі хоч ты, дзядзька,
Сабак гадаваці,
Ведай, што іх трэба
Добра прывязаці.
Бегаюць па вёсцы,
Цягаюць падліну,
Могуць пакусаці,
Жывым не пакінуць!
Трэба мець сумленне,
Людзей шанаваці,
Сваіх „абаронцаў”
На ланцугах трымаці!
Паслухай суседзяў:
Штодзень напамінаюць,
Што тваіх сабачак
З падворкаў выганяюць.
Ты ўсім нам павінен
Добры прыклад даці,
Тады цябе ўсе будуць
У вёсцы шанаваці!

**Мікалай Лук'янюк**

## „Парнас” — наша вежа

Паэт Мікалай Лук'янюк
расчараваўся,
У чым яўна прызнаўся
У сваім вершы „Што далей”.
Мой адказ: пісаць больш і смялей!
Піша, ці варта крытыкаваць уладу
З цяперашнім капіталістычным
ладам,
І што паэзія людзям нічога
не дапаможа,
А д'ябал з „подыхам Захаду” рагоча.
Няхай паэзія і не дапаможа,
Дык — дапамажы нам Божа!
Каб людзі праўду чыталі і цанілі
І на роднай беларускай мове
загаварылі.
Калі будзем гаманіць,
Лягчэй будзем жыць!
І ўлада больш нас дацэніць.
У жывога Бога неабходна
нам верыць!
Нашы вершы палякам непатрэбныя,
Бо мы людзі з усходняй сцяны
і бедныя.
А нам трэба быць багатымі духова,
І гэта найважнейшая дарога
і выснова.
Добра, што „Ніва” нашы вершы
друкуе,
Значыць — яна нас любіць і шануе.
А ў рэдакцыі людзі разумныя
і вучоныя,
Яны сейбіты роднага слова
высакароднага.
Добра, што маем куды вершы
пасылаць
І на старонках роднай газеты
іх чытаць.
А гэта вялікая наша перамога
І будзем трымацца роднага парога.
А ці нашы вершы горшыя
ад польскіх?
Думаю, што чытачы нас
ацэняць станоўча.
Наш куток называецца „Парнас”;
Там месца многа і для вас, і для нас.
Пішыце туды ўсе, каму паэзія
пачэсна,
Каб мір, любоў і слова роднае
жылі ў нас вечна.
Нашы вершы простыя, але
зразумелыя
Каб былі і спелыя!
Гэта наша, свая, родная „Белая вежа”,
І дасягнем гэтай цудоўнай
вежы ў роднай адзежы.

**Мікалай Панфілюк**

Думкі дзеда Антона

# Каб хварэць, трэба мець здароўе

У апошні час не найлепш я сябе адчуваў. Пайшоў тады я да нашай „пані дохтар”, а яна мне некалькі картачак напісала і сказала ў Гайнаўку паехаць, каб там мяне абследавалі, кроў узялі і тое, што я за клуняю найчасцей пакідаю, у бутэлечцы на паказ спецыялістам даць.

Цяжкавата мне па тых аўтобусах цягацца, то я папрасіў завезці мяне Янку, Іванавага сына. Даў я яму дваццаць злотых і жалезных на два піва. Тыя дваццаць то за бензін і страчаны час. Хлопец быў задаволены, а я тым больш, хаця потым і засумняваўся, што замнога даў.

У панядзелак, з самага ранку, Янка павёз мяне як караля якога. Толькі ўлезці ў той яго „малюх” было цяжкавата, бо схіліцца абавязкова трэба, каб ілбом у машыну не ўрэзацца.

Уехалі мы ў Гайнаўку. Янка павярнуў у левы бок да новага шпіталя. Ехалі мы, а я цераз шыбы ўглядаўся, надвор'ем захапляўся, а тут як аўтамабіль не падскочыць раз-другі, а і трэці яшчэ! Я кажу: "Як ты мяне за дваццаць злотых вязеш?! Хочаш, каб я чатыры апошнія зубы страціў!" А ён адказвае: „Дзядзьку, а як мне тут ехаць, калі ў гэтым асфальце больш дзірак, як яго цэлага”.

Гляджу я: праўда. Асфальт такі, як бы хто кускі павыкалупваў. А гэта ж вуліца Ліповая, амаль найважнейшая ў горадзе! Хіба пані бурмістр вельмі здаровая і ў шпіталі не бывае, то і не ведае, якая тут дарога! У нас, у гміне, дарогі лепшыя. Калі б вы былі ў Хітрай ці Дубічах-Асочных, напэўна самі дайшлі б да вываду, што ў нашай пані войт вочы лепшыя і таму ўсё лепш дагледжана. Урэшце заязджаем пад шпіталь, а тут гладзюсенька, чыста і так прыгожа як на Цэнтральным вакзале ў Варшаве ў сямідзесятыя гады. Шпіталь, праўда, вялізны, прыгожы, а ўваходаў столькі, што і палічыць цяжка. Добра, што Янка мяне ўвёў і паказаў дзе трэба ісці і каго пытаць. Чыстата там, новае ўсё. Я баяўся, каб не пакаўзнуцца, бо падлога ў шпіталі вельмі слізкая. Я яшчэ і ліфтам пад'ехаў. Але пасля абследаванняў ледзь жывым адтуль выйшаў. Праз тыдзень трэба мне зноў туды выбрацца. Мне ад гэтай думкі ўжо сёння галава баліць. Каб у сённяшні час хварэць, то трэба моцнае здароўе мець!

**Выслухала і запісала**
**Іаланта Грыгарук**

# Навіны не з адной гміны

## Сакольскія інвестыцыі

Сёлета ў Сакольцы пачнуць пабудову крытага басейна для плавання і закончаць за два гады. Запланавалі яшчэ каналізацыю на жыллёвым пасёлку Бухвалова. Будзе таксама больш асфальту на гарадскіх вуліцах, між іншым, вул. Супольнай і Папярэчнай.

Улады Сакольскай вясковай гміны запланавалі пабудову водапровода ў Ігрылах і Высокіх Лясках, а таксама водаадводнай каналізацыі ў вёсцы Забродзе.

## У аўтарамонтнай станцыі

У Гайнаўцы Гмінная спулдзельня мадэрнізавала сваю Аўтарызаваную аўтарамонтную станцыю (АСА), у выніку пашырыўся дыяпазон паслуг. Апрача рамонтаў машын, у тым ліку грузавікоў „Люблін”, праводзіцца праверка тэхнічнага стану аўтамабіляў, мантаж газаўстановак.

У гайнаўскім кааператыве АСА зараз працуюць вопытныя аўтарамонтнікі, між іншым, Мікалай Плева (кіраўнік), Юрка Шарашавец і Васіль Федарук.

## Недагледжаны пляц

У цэнтры Гайнаўкі па вул. Парковай 3 ёсць гарадскі пляц гульняў для дзяцей. Шкада толькі, што ён страшыць. Асабліва палохаюць акружаючы яго паркан з дзіркамі ў сетцы і пакручаныя ды заржавелыя брамкі. Зніклі недзе некаторыя гушкалкі і невялічкія паркавыя лавачкі. Усе прылады для дзіцячых гульняў неадкладна трэба памаляваць і прыбраць макулатуру ды... бутэлькі з-пад гарэлкі.

Пляц так выглядаў месяц таму і таксама выглядае цяпер.

## У Трывежы будуюць самі

Некаторыя жыхары вёскі Трывежа Гайнаўскай гміны гэта грамадскія дзеячы. Заахвочвалі яны аднасяльчан да пабудовы святліцы і... яе пабудавалі. Вядома, не без дапамогі гмінных улад.

У канцы мінулага года на аўтобусным прыпынку ПКС трывежцы пабудавалі пачакальню. Цяпер ёсць дзе схавацца ад мяцеліцы ды ад халоднага ветру ўсім, хто прыйшоў і чакае „свайго” аўтобуса. **(гай)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Даражэнькі Астроне! Ты часта пісаў пра абутак, што калі ён сніцца, то трэба спадзявацца нейкага падарожжа. Я пра гэта ўжо ведаў і нават не пісаў бы табе і не пытаўся, калі б не пэўныя акалічнасці.

Дык вось, прысніліся мне бацінкі, якія сапраўды ў мяне ёсць. Надта яны добрага гатунку і модныя. А да таго яшчэ і моцныя, шнураваныя. Я трымаю гэтыя боты ў руках і раптам заўважаю, што ў адным бацінку парвалася збоку падэшва. Прыглядаюся і бачу, што падэшвы кардонныя. Ай-я-яй, як жа так, я ж, купляючы, думаў, што яны са скуры... І ў гэтым момантце я прачнуўся.

Ну, і што здарылася ў гэты дзень? У гэты дзень мне ўляпілі — праўда, не з кардону, але „паперку”: мандат за няправільнае паркаванне самахода. Давялося адбыць „падарожжа” ў Гарадскую ахову, дзе садралі з мяне ладных пару злотых. Я адразу пасля таго, як тыя ж мае — не мае бацінкі прысніліся, падумаў, што падарожжа будзе не з найцікавейшых, і ўгадаў, праўда, Астроне? **Павел**

Мне, Астронку, прыснілася, быццам я трымаю ў руках шкляную вазу. Яна пустая. Раптам я выпусціў яе з рук. Шкло рассыпалася, я збіраў яго. Што гэты сон мог бы абазначаць? Я вельмі непакоюся, ці хаця не абазначае гэта нешта дрэннае... **Алег**

Павел! Ты сам разгадаў свой сон вельмі правільна. Сапраўды, твой сон прадвяшчаў непрыемнае падарожжа, звязанае з паперамі.

Алег! А твой сон, не пужаючы цябе, прадвяшчае нейкую бяду. Калі б табе прыснілася ваза з кветкамі, абазначала б гэта, што будзеш мець у жыцці поспех і выбранае становішча ў грамадстве.

Але табе, на жаль, прыснілася пустая ваза, а гэта можа прадвяшчаць нейкія сумныя весткі ў сувязі са стратай блізкага чалавека. Тым больш, што ты гэту вазу выпусціў з рук і шкло распырснулася навокал. А ты ж яшчэ яго збіраў, так што, думаю, гэтыя непрыемныя справы могуць датычыцца цябе надта моцна. Барані Божа ад такіх сноў! **Астрон**

Спорт

# Футбольны матч у Нараўцы

18 красавіка г.г. на стадыёне ў Нараўцы футбольная каманда ЛЗС Нараўка сыграе матч з ЛКС „Анджэеўскі” — у рамках другога вясенняга раўнда за званне майстра спорту і за кубак Беластоцкага акруговага Саюза футбола. Пачатак розыгрышу а гадзіне $13^{00}$. **(гай)**


**Ніва**

„Niwa”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**
1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2.20 zł, a kwartalnie — 28.60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

Фрашкі пра нашых

## Шчырая Геня

Геня ў гміне працавала,
Роварам усю з'язджала.
Стала інструктарам —
Каталася скутарам.
Сакратаркай стала,
Аўтобусам імчала.
Цяпер за камп'ютар села...
Медалі, што далі, з'ела.

Хто шчыра працуе
І сябе не шкадуе,
Дома не начуе...
Хлеба не шмаруе.

## Муза з лупай

Як Марыся захацела памагчы
Алесю,
Шчыра папрасіла: „Купіце
машынку!
Ваша хуткапіска зігзагі крэсліць.
Ужо саракагоддзе згорбіла
мне спінку".

Хутчэй адагнецца Марыся
ў дваццатку,
З бабулі ў дзеўку змяніцца навонкі,
Чым паэт-прафесар пакіне асадку
І сам расчытае хоць адну
старонку.

**Вандал Арлянскі**

## Сентэнцыі Барыса Руско

* Апярэдзіць сябе самога — гэта быццам гару рушыць з месца.
* Ад нараджэння свету той сам дзень і тая ж ноч ахутваюць зямлю.
* Найгоршы дарадчык — прымірэнне.
* Жыццё б'е ў скронь пастаянна.
* Спякання часу не спыніш разгладжваннем маршчын.
* Глуханямому вуснаў не закрыеш.

# Ніўка

## Парады супраць асіміляцыі

Калі на працягу апошніх дзесяцігоддзяў народная ўлада адпраўляла нас у вялікія гарады, адзіным пасагам, які мы атрымалі ў такую адказную дарогу была адукацыя. Слесары і прафесары, лекары і пекары апынуліся ў становішчы, якое нагадвае палажэнне голых сярод ваўкоў. Дзякуючы календарам і іншым беларускім выданням мы ведалі калі сеяць жыта, а калі пшаніцу, ведалі і тое, што час цяжарнасці кабылкі працягваецца 340 дзён, а трусіхі адзін месяц. Усё-такі спажыткаваць гэтыя веды ва ўмовах бетонных блёкаў нам не пашанцавала. Нават прадбачыць пагоду, карыстаючыся традыцыйнымі народнымі метадамі — аказваецца — немагчымая справа. Праўда, ведаеш — калі авечкі паміж сабою стукаюцца лбамі — збіраецца на вецер, аднак авечкі ў школу не хадзілі і, як мала свядомы элемент, ад народнай улады пропуск у горад не атрымалі.

І вось, зразумеўшы, чаму зямля бегае кругом сонца і чаму дзве паралельныя ўсё-такі сустракаюцца ў прасторы, разглядаемся, бы дзеці ў тумане, калі ў натоўпе ўкрадуць нам гадзіннік, прытопчуць клынду, або — зусім нечакана — давядзецца нам пераначаваць у выцвярэзніку. Як паводзіць сябе ў такіх выпадках — дарма шукаць у кніжках ці газетах. Мо з-за гэтага і даводзіцца нам пераймаць чужыя прыклады? А гэта ўжо першы крок у асіміляцыю, у адсутнасць, у забыццё. І каб з-за авечай неадукаванасці не здзьмухнуў нас непрадбачаны вецер гісторыі, пішуцца гэтыя маленькія, а ўсё ж такі незаменныя парады. **Міхась Андрасюк**

## Як паводзіць сябе, калі ў натоўпе наступяць вам на клынду

Можа здарыцца так, што ў вулічным натоўпе хтосьці ненаўмысна прытопча вашу клынду. У такіх выпадках не дазваляйце сабе на хвіліну слабасці. Перш за ўсё — захавайце каменны спакой: не такія нас таптаалі! Чалавек вульгарны пакарыстаецца тут брыдкім словам. Нетактоўны — спытае пра вагу нета, а нетактоўны і адначасова вульгарны пачне ўголас прадумваць — колькі ж сала і катлетаў трэба заглынуць штодзённа, каб дасягнуць такую пачварную тушу. А клынду — трэба верыць — патурбавалі зусім выпадкова і ў душы віноўніка — не думайце — адбываецца якраз беспардонная вайна паміж яснымі і светлымі элементамі чалавечага духа.

— Якія ў вас мяккія чаравікі, — скажыце на добры пачатак. Чалавек які раструшчыў усе пальцы на вашай назе — праўда — яшчэ не радня, а ўсётакі ўжо і не чужынец. Мабыць, пашанцуе вам і зусім нечакана выслухаеце даклад аб перавазе замежнай абутковай прамысловасці над айчыннай, мо нат станеце экспертам у галіне: свінячыя, ялавічныя і кракадзілавыя шкуры. За дармовую адукацыю можаце адзячыць запрашаючы незнаёмца ў госці. Маршыруючы дамоў, старайцеся не хваліцца сваім калецтвам. Паходка — можаце сказаць — спакон вякоў такая ўжо, прыродная.

Госця старайцеся прытрымаць у хаце дзён прынамсі шэсць. Калі хворыя ногі прыкуюць вас да крэсла, за пакупкамі пасылайце жонку. Зрэшты, жанчыны і так лепей арыентуюцца ў забеспячэнні дамашняга ачага харчовымі прадуктамі. Вадкае меню запішыце на картачцы і пакладзіце ў партфель — там, дзе жонка звычаёва захоўвае ваша фота. Праўдападобнасць, што замест шатландскай віскі не прыйдзе ў хату абы-якая баўтуха — значна ў такіх выпадках узрастае. Першыя сімптомы гангрэны — яшчэ не прычына, каб напамінаць госцю пра яго ўласную хату. Ампутацыя пальцаў верне вас — калі ўжо не ў дзяцінства — дык прынамсі ў напамінаючыя той шчаслівы час чаравічкі.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У царкве:
— Ці ты, Юрка, маеш жаданне ўзяць за жонку прысутную тут Вераніку? — пытае святар.
— Не!
— Дык чаму ж ты не сказаў пра гэта перад шлюбам?
— Бо вы, бацюшка, з'яўляецеся першаю асобай, якая мяне пра гэта пытае.

* * *

Да сексолага прыходзіць жанчына і скардзіцца, што муж страціў узбуджанасць да яе.
— Ці ёсць на гэта нейкае лякарства? — пытае лекара.
— Ёсць парашок, трэба будзе яго ўсыпаць у мужаву каву. Гарантую маланкавую рэакцыю...
На другі дзень жанчына зноў з'яўляецца ў лекара.
— І што: памагло?
— Яшчэ як! Не ведаю толькі ці буду мець адвагу зноў схадзіць у тую кавярню.

* * *

Гутарка старых палякаў:
— Ты католік?
— Так: веруючы, але не практыкуючы. А ты камуніст?
— Так: практыкуючы, але не веруючы.

* * *

— Ці ведаеш, што страус недабачыць, але затое яго страўнік усё пераварыць?
— Ох! Быў бы ён ідэальным кандыдатам на мужа.

* * *

— Заручылася я з Юркам, бо ён быў зусім іншы ад другіх...
— А чым ён вылучыўся?
— Толькі ён папрасіў маю руку.

* * *

— Мама! Андрэй сказаў мне, што са мною ажэніцца!
— Яны ўсе так гавораць.
— Але не мне!

* * *

Яна і ён:
— На жаль, мушу табе адказаць — учора Юрка папрасіў маю руку...
— У такім выпадку я папрашу рэшту.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Эх, Сэрцайка, Сэрцайка, празявала я сваё шчасце, праваронііла. А было ўжо так блізка.

Мне 28 гадоў, а я яшчэ незамужняя. Нельга сказаць, што дагэтуль я нікога не мела. Была б гэта няпраўда. Хлопцаў мне ніколі не бракавала, але вось усё былі такія, каб не маглі быць лепшыя. Я ж ведала, што мужа чалавек выбірае сабе на ўсё жыццё. Трэба было падыходзіць да мужчын асцярожна, а кандыдатаў разглядаць з усіх бакоў.

Спачатку, дзесьці да 23 гадоў, я шукала толькі кахання. Неяк кожны хлопец, з якім я пачынала хадзіць, вельмі хутка мне пераставаў падабацца. Дзяўчаты мне зайздросцілі: змяняеш, казалі яны, тых хлопцаў, як рукавічкі, добра табе.

А што мне было за „добра", калі я іх змяняла не з-за фанабэрыі, а проста таму, што не магла па-сапраўднаму закахацца. Хадзіць абы хадзіць мне не хацелася.

А пасля я, быццам старая дзеўка, пачала яшчэ вышукваць у хлопцаў, якія маглі б быць кандыдатамі на мужа, нейкія дэфекты. А ў гэтага замалая адукацыя, а той не ўмее танцаваць, адзін — скупы, другі — непрыгожа есць, трэці — замалы, чацвёрты — завысокі і г.д.

Я пачала непакоіцца, што ніколі не знайду хлопца па сабе і не выйду замуж.

І вось я ўбачыла яго, і ўсё ў маёй душы насцярожылася, абудзілася, быццам свежая зямля пасля доўгай зімы. Гэты хлопец быў сябрам майго знаёмага. Калісь вучыліся яны ў вышэйшай школе разам, а цяпер працавалі па адной прафесіі: той хлопец застаўся ў Варшаве, а мой знаёмы — у Беластоку. І вось цяпер той сябра ўпершыню прыехаў у Беласток. Праўда, выбраўся ён сюды толькі на суботу і нядзелю, але мой знаёмы разлічваў на тое, што паспее яго павазіць па ваколіцы і паказаць яму нашы найцікавейшыя мясціны, прыроду.

Гэты мой знаёмы запрасіў мяне да сябе на суботні вечар і сказаў, што будзе яшчэ пару асоб. Я пастаралася апрануцца модна і „сексоўна", невядома ж было, хто да яго прыйдзе, і... як бы ўгадала.

Яго госць заваражыў мяне адразу. Не было ніякіх „але": быў статны і прыгожы, быццам Адоніс, быў эрудыраваны і меў добры голас. Спяваў нам цэлы вечар, падыгрываючы на гітары.

Я глядзела ў яго вялізныя вочы, якія, здавалася, прашывалі мяне наскрозь, і ўяўляла сабе, што спявае ён толькі для мяне. Усе дзяўчаты, што былі там, аж пішчалі, каб быць бліжэй да яго. Абселі яго, шчабяталі. Але ён, калі скончыў іграць, прысеў каля мяне і гладзіў мяне па валасах. Пасля пацалаваў мяне ў шыю, але быў вельмі далікатны.

А які ён быў разумны! У мяне аж дух запірала, калі ён з сябрам гаварыў на вучоныя тэмы. Усё ў яго было дасканалае: і розум, і выгляд, і талент. Я вырашыла, што гэта будзе мой муж, тым больш, што ён на іншых дзяўчат не звяртаў увагі, а мяне нават пацалаваў.

Я не верыла свайму шчасцю. Божа мой, усё ж такі я знайшла чалавека, якога пакахала. Варта было чакаць дзеля такога хлопца!

Недзе каля гадзіны дванаццатай я вырашыла, што пара ісці дахаты. Бацька не любіў, калі я позна вярталася. У майго знаёмага яшчэ засталася вясёлая кампанія, а яго сябра выйшаў са мною і праводзіў мяне да самага дома. Ён даў мне свой адрас і тэлефон, а на развітанне сарваў мне асенняю астру з нечага агародчыка. „Толькі ты", — шаптаў мне на вуха.

Я не магла спаць уначы, увесь час думала пра яго, пра каханне. Праз некалькі дзён зайшла да таго хлопца, у якога была імпрэза, і даведалася, што... яго госць закахаўся не на жарты ў адну дзяўчыну, што засталася тады ў кампаніі. Так уліп, што нават паехала за ім у Варшаву.

І сапраўды, калі я затэлефанавала да яго, яна падняла трубку. І цяпер я думаю, што не заўсёды варта захоўваць свой гонар. Тая дзяўчына, бадай, адразу ўлезла да яго ў пасцель і цяпер мае хлопца. А я што?

**Эва**

Эва! Яна мае, праўдападобна, хлопца, але не мужа. І думаю, што хутка яго мець не будзе. Так што не пераймайся, бо вы ў аднолькавай сітуацыі.

З другога боку, шкада, што і ты не засталася да раніцы. Што тут гонар...

**Сэрцайка**